## ЗМЕСТ



У гады Вялікай Айчыннай вайны Асвейшчына, як і ўся тэрыторыя Беларусі, была акупіравана гітлераўскімі захопнікамі, якія прынеслі нашаму народу незлічоныя бедствы. Сотні вёсак былі спалены разам з людзьмі, тысячы жанчын, старых, дзяцей вывезены ў канцэнтрацыйныя лагеры. Многіх беларускіх дзяцей выратавалі ад смерці латышы, даўшы ім ежу, прытулак, ласку. Аб усім гэтым расказваецца ў брашуры С. Панізніка «Пасля вогненных вёсак…».

Маленькую Броню ў той дзень укусіла гадзюка. Джгнула за нагу, калі дзяўчынка бегла праз кусты. За кожнай вёскай на Асвейшчыне— лес, за кожным лесам— веска. Мама папрасіла Броню зкайсці цялё... Яна й пабегла. І вось цяпер ля драпінкі над пятой выпінае пухліна. Броня не ведае, што з ёй будзе, маці — у слязах. Здаецца, яна і крывінкі з раны высмактала, але ўсё ж збіраецца бегчы да Адэлькі, каб тая пашаптала. Адэлька паспяшалася да заходу сонца, каб замова ад вужакі мела сілу. Прыйшла, скорчылася над дзяўчынкай. Броня ў гарачцы, і можа таму ніяк не зразумее ўсіх слоў, якія шэпча над ёй цётка Адэлька. А тая ўсё шэпча і шэпча: «У чыстым полі, на сінім моры — там стаяў дуб... І пад тым дубам чараваная кравацъ. А на кравацi ляжаў змей-шкурапей... А пад краваццю змяя падкалодная, страхавая, солнычная, палусолнычная, лунная, палулунная... Дажджавая, месячная, земляная... Палужаная, павудошная, межавая... Дай, бог, помач Броні... Дай...»

Назаўтра Броня прачнулася не адразу: ёй здавалася, быццам яна павольнымі рыўкамі выплывае са сну, а сон чапляецца за яе плечы, рукі, ногі — не выпускае. У хаце было многа народу, але ўсе сядзелі, бы анямелыя. Цётка Адэлька шаптала ёй на вуха, але ўжо не так, як учора — без той важнасці, узнёсласці, таямнічасці, а так, як сваёй раўні: «Немец, змей-шкурапей, на нас пайшоў... учорака... Пранясіце яго над намі, сілы нябесныя...»

* * *

З Броняй мы сустрэліся ў Латвіі некалькі гадоў назад. Што было з ёй 22 чэрвеня 1941 года, не памятае. Успамінае наступны дзень, уяўляе ласкавы, спагадны твар цёткі Адэлькі.

Сілы нябесныя міма вёскі пранеслі нямецкую калону. Не ўсім тады прыйшлося ўбачыць ворага ў твар. Людзі пашумелі-пашумелі і пачалі супакойвацца: «А, патузаюцца нашы з немцам і адкоцяць яго назад...» Ды немцы як у ваду канулі.

І Броня не бачыла жывога ворага аж да 1943 года.

Потым быў партызанскі лес, спаленая родная веска, станцыя і эшалон, барак, аўчаркі, бірка на шыі, апошні матчын крык...

Калі Бронінай дачцы споўнілася столькі ж, колькі ёй самой было ў канцлагеры, Броня са сваім мужам Янісам адважылася паехаць у Саласпілс і на тым самым месцы, дзе стаяў яе барак, сфатаграфавала дачушку. Маці была сумнай, разгубленай, і прыгожанькая Вэлта аказалася на здымку з вінаватай усмешкай. Толькі кветкі шыпшыны праніклівa выглядвалі з-за Вэлціных вачэй.

Пры размове Броня пагаравала, што так і не адшукала ні сваіх родных, ні сваіх бацькоў, ні той вёсачкі, дзе нарадзілася. Толькі і ведае, што родам з Асвейшчыны.

— Паедзем да родных Яніса — у мяне аж сэрца заходзіцца: ва ўсіх ёсць род свой, свае карані. І хоць не адна я на свеце, а нейкая сіроцкая струна шчыміць у маёй душы.

* * *

16 лютага 1943 года пачалася адна з карных экспедыцый на Асвейшчыне. Вось што было ў ноч з 15 на 16 лютага, калі агонь яшчэ спаў у запалцы карніка.

**ЛІПАЎКА Марыя** ўспамінае:

— Той атрад пасялілі ў Бігосаве па дамах. І ў маю хату прывялі. Трывожна было на душы, ды ніхто яшчэ не знаў, што з гэтага палучыцца. А больш за ўсё набралася я страху ноччу. Ваякі спалі на падлозе. Пасярод ночы спрасоння адны з іх ускоквалі, крычалі: «Не тронь! Зажыгай! Страляй!..» Наслухалася трызненняў праз усю ноч. Раніцай пайшлі па дарозе на Росіцу. Праз некаторы час у тым баку дым зачаўся. Пачалі паліць...

Мы сёння, не маючы магчымасці спыніць тых азвярэлых карнікаў, пойдзем па іх следзе, аднаўляючы ў народнай памяці іх кожны злачынны крок.

Сведчыць жыхарка пасёлка Росіца **МАРОЗ Валянціна**:

— Мяне папярэдзілі, што збіраюцца ліквідаваць савецкіх актывістаў. У спісе на арышт сярод мужчын адна была жанчына — гэта я, былая настаўніца. Удалося ратавацца толькі мне. А пяць мужчын расстралялі: Пятра Варону, Міхаіла Шутко, Паўла Уселенка... Апошні быў «вінаваты» толькі ў тым, што яго да вайны членам сельскага Савета абралі...

У снежні 1942 года партызаны выбілі немцаў з Росіцы. Камендатура перамясцілася ў Бігосава... Якраз у ноч з 15 на 16 лютага 1943 года я на санях падвозіла партызан пад Сушкі. Далей да чыгункі яны ішлі на заданне пешшу. Чую: узрыў на чыгунцы, страляніна. Нашы прыбеглі па каня. Давезла іх да Росіцы, і яны хутчэй у свой штаб, каб сказаць, што абстаноўка змянілася — вораг збірае сілы.

Назаўтра першымі ад Бігосава гарэлі вёскі Марозы і Каменцы. Адтуль у Росіцу прабіліся ўцекачы. Крычаць нам: «Палюць!» Хто з нас мог — рушылі ў лес Засценак. А з поўначы, аказваецца, таксама пайшлі на нас карнікі. Каго паспелі — злавілі, але ў самы лес аж да 23 лютага не заходзілі: баяліся партызанаў...

Мы яшчэ вернемся да размовы з Валянцінай Восіпаўнай, а цяпер спынімся ля першага пажарышча, якое яшчэ раніцой 16 лютага 1943 года называлася Каменцамі.

**ГРЫБОЎСКАЯ Марыя** ўспамінае:

— Зараз у Каменцах толькі тры хаты стаяць. Сем удоў жыве. Адна з іх штозіму да дачкі з'язджае. У шасцёх застаёмся. А да вайны тут 13 двароў стаяла. Ну, а тады... Выгналі з хат. Абглядаюць нас. Мароз Марыя, ёй гадоў 25 было, трымала пад пахай кніжку: з-пад курткі яна выпіналася. Дык тыя па думалі: можа граната якая. Былі ж напужаныя: на партызан ідуць...

І Марыя Данатаўна расказала, як стрэлілі карнікі ў дзяўчыну, а потым яе ж бацькоў заставілі ў агонь несці сваё роднае дзіцятка.

— Гасцявала нядаўна ў мяне ўнучка,— прадаўжае Марыя Данатаўна.— Глядзім гэта мы па тэлевізары фільм. Паказваюць вайну, эсэсаўцаў з аўчаркамі. Я аж калачуся, слёзы на вочы набягаюць, а ўнучка, гледзячы на мяне, усміхаецца: «Бабуля, а чаго ты плачаш? Гэта ж — кіно, гэта ж — няпраўда!»

— Во як атрымліваецца,— падумалася мне.— Мо й добра, што наш боль не становіцца іхнім болем. Але тое, што мы перажылі,— гэта ж праўда!...

Дарагая Марыя Данатаўна! Усё праўда, свяцейшая праўда, як і самі вы, як і вашыя ўдовіны тры хаціны, як і ваша ўнучка і яе шчаслівая памылка... Праўда і тое, што ворагі нашай зямлі, а яны існуюць і зараз, не хочуць гэтае праўды, такой вось праўды, як ваша. Бо праўда — гэта не толькі памяць, памяць болю, смерці, пакутаў, памяць — гэта і незакончаны суд ваш над фашызмам, над гвалтам, бесчалавечнасцю, подласцю, усімі чорнымі, а таму антыпрыроднымі сіламі, якія вялі і яшчэ вядуць вайну супраць светлай душы чалавецтва.

Вось таму і патрэбна помніць усё: шчаслівае і бядотнае, радаснае і журботнае, былое і даўняе, бо забыць гэта ўсё — небяспечна.

## «...ТАКОГА БЫЦЬ НЕ МОЖА НІДЗЕ НА СВЕЦЕ»

А вось што было ў лютым 1943 года ў вёсцы Гілігаўкі. Расказвае **АНДРУХОВІЧ Галіна**:

— Нас трое было ў маці. Каралі так. Бачым — кулямёт праз акно ў хату прасунулі. І крычаць звонку: «Выхадзі!» Выбеглі праз дарогу да суседа. А яго хата гарыць. Мы назад. Тут брату Зэнусю ў жывот ударыла, а сястры Яніне — у галаву. Падбягаю з мамай пад хату, а

карнікі: «Назад!» Мама мяне схапіла за руку і кінулася бегчы. Тут і маму забіла. Як спалілі Плігаўкі, у жывых толькі сямёра дзяцей засталося.

— А ці помніце іх імёны?

— А як жа, помню: Галя, Іван, Іра, Зіна, Рэня... А вось як звалі яшчэ адну дзяўчынку, не ведаю. Бо ёй усяго 3 месяцы было...

Сведчыць **ВАРАХОП Настасся**:

— Росіца была такая: дзярэўня двароў на 80, а на гары мястэчка. Мала хто з нас у лес пайшоў, хоць нам партызаны і казалі. Адно што ўсе не паспелі б, а па-другое— хто верыў, што нас караць прыйдуць. Вайна, але каб людзей паліць?..

Як пайшоў з-пад Бігосава дым у неба, замітусілася мая сям'я. Я была з сястрой Нюрай, маладзейшанькай. Дрэнна адзеліся: не рассчытывалі, што наўсягды.

У лесе нас і пабралі, усіх — і з-пад Каханавіч, і з-пад Асвеі. Старэйшых адразу пагналі паліць.

Ох, ты, божа... І ў памяці не змесціш, што пражыта... Шаха ў канцы вёскі стаяла, у другім канцы — дом. Там і палілі. Пасля вайны хацелі араць, баранаваць на тым месцы... Нельга было... Запяклася зямля. Ніводзін чалавек не ўзяўся парушыць яе... Што ўжо мы пражылі — такога быць не можа нідзе на свеце.

Ох, цётка Настасся, цётка Настасся. Разлучылася ты ў лесе са сваёй сястрою, набілі цябе плёткамі ў Саласпілсе, Майданаку, не загінула і ў Равенсбруку, дзе «дзень-ноч з трубы дым ішоў чарней, як з паравоза». Столькі смерцяў каля цябе прайшло.

І **ОРУБ Надзея** з Росіцы таксама гаворыць пра тое, што толькі ў выключных выпадках людзі ад карнікаў заставаліся жывымі. Яна стала партызанкай у свае няпоўныя 20 гадоў, у атрадзе пакахала Оруба Эдуарда з Кавалеўшчыны, іх сувязнога. Фашысты арыштавалі яго разам з бацькам, братам Віктарам і прыгналі ў Цагельнікі. Пхнулі ў дом, забілі вокны, навокал кулямёты наставілі. Раптам прыехаў іхні начальнік. Захацеў пагглядзець, хто ў хаце. З нейкай прычыны паказаў пальцам на Эдуарда і Віктара, тых і выпхнулі з хаты. Дом зноў забілі дошкамі і тут жа падпалілі.

Колькі ж талентаў не прыйшло табе на службу, зямля беларуская?! Спапялёныя вершы, спапялёныя песні, спапялёныя фарбы... На былым пажарышчы хоць праз некалькі гадоў, а прабіваецца трава. Калі ж вернеш страчанае, у якіх выявах адродзішся ты, мацярык беларускай культуры, каб наступным пакаленням не кідаліся ў вочы прагалы, прагалы, прагалы?

У адным з гэтых прагалаў стаіць маці пяцярых дзяцей **КАДАШ Юзэфа**:

— 16 лютага страшны быў дзень і для вёскі Мядзведзева. Усю зіму ў нас па хатах стаялі партызаны.

Аднаго разу кажуць: «Хавайце што даражэйшае. Пойдзе карацельная экспедыцыя. Будзе страшна». Мы немцаў не бачылі на вочы з 41-га года...

Юзэфе Уладзіміраўне ішоў тады 20-ты год. Яе бацька быў на фронце, брат Осіп партызаніў. Праз год пасля гэтага ён загіне ў няроўным баі. А брату Ігнату ішоў тады 10-ты, сястры Людміле — і таго менш. А былі яшчэ ў хаце яе мама, дзед і бабуля.

— У Мілавіцкія лясы мы падаліся. Карнікаў пакуль што стрымлівалі пацтызаны, А мы — столькі народу — ішлі і ехалі некалькі сутак запар!

Потым шлях гэтай сялянкі праляжа праз Рыжскую цэнтральную турму, Саласпілс... У Равенсбруку яна будзе насіць чырвоны трохкутнік і нумар 40 825...

* * *

У Росіцы мне сказалі так: некалькі гадоў шукала сваё дзіцятка **ШУТКО Соф'я**. І вось я ў небагатай сялянскай хаце, дзе Соф'я Цімафееўна жыве з братам. Падаіўшы карову, цётка пачала:

— Там два дзеравы астаўшыся, дзе наша хата стаяла. Недалёка адсюль. ...Пасля грамніц гэта было. Нехта як закрычыць на двары: «Уцякайце, паляць з людзьмі». Апранула малога, за санкі і ў лес. Нас чалавек сорак сабралася, І ўжо па нас страляюць. Вядома, нас відзяць. А кулі не далятаюць... Кулі чамусьці не далятаюць...

Так і бадзяліся па лесе галоднымі. Аднаго разу чуць на бальшак не ўспароліся. Выйшлі на край лесу. З-пад елак глянулі: грабяць Ціршава! Чулі мы — запалілі: у хатах крыкі, стогны. З усімі людзьмі спалілі Ціршава. І зноў мы ў лес падаліся. А назаўтра нас акружылі. Перад гэтым тры бабы і дзве дзяўчынкі ў разведку пайшлі. Натрапілі на засаду. Па іх страляць, а яны — бягом. Хто знае, што з імі. Адной бабы двое дзяцей з намі засталося. Сіроткамі сталі.

Удакладняе **МАРОЗ Вячаслаў** з вёскі Марозы:

— Раніцай у Бігосаве мяне вядуць у дальні вагон, а дачка высунула галоўку з бліжняга вагоннага люка і крычыць: «Тата!» А нас далей павялі. Толькі паспеў прыкмеціць, што на кожным вагоне крэйдай было напісана: «Партызанен»...

Хто ведае зараз, колькі саставаў пайшло на захад з такім фальшывым надпісам.

Але не заўсёды ўдавалася ворагу нават сілаю зброі прывесці людзей да пакоры. Вось выпіска з загада № 25 па брыгадзе імя Свярдлова. Партызаны з вёскі Мілавіды пакінулі нам такі дакумент:

«16 лютага гэтага года непрыяцель сканцэнтраваў свае сілы ў Латвіі, Дрысе і Бігосаве, з дапамогай самалётаў пачаў сваю грабежна-разбойніцкую дзейнасць. У Дрысенскім і Асвейскім раёнах на шляху свайго руху вораг па-зверску распраўляўся з мірным насельніцтвам. Жыхароў, якія не паспелі пакінуць вёскі, зганялі ў хаты і спальвалі, тых, хто меўся ўцячы, расстрэльвалі. У адной толькі вёсцы Залешчына 24 лютага 1943 года нямецкія бандыты спалілі больш за 100 чалавек жанчын, дзяцей, старых. А ў лесе ля вёскі Корнікі партызаны выявілі больш сотні чалавек расстраляных, у тым ліку і грудных дзяцей. Статак, хлеб і пажытак карнікі забіралі і адпраўлялі ў тыл.

16 лютага гэтага года нашы партызаны — народныя мсціўцы — уступілі ў бой з бандамі, праяўляючы стойкасць, мужнасць і геройства, знішчылі сотні фашысцкіх мярзотнікаў...»

## СМЕРЦЬ У РАСТЭРМІНОЎКУ

Я іду з хаты ў хату, з вёскі ў вёску. Вось яшчэ адна клямка глуха празвінела за маёй спіной, а на паперы ў падарожным сшытку сцішыліся застылыя радкі горкай, балючай памяці. Ведаю, яшчэ доўга будзе выціраць умакрэлыя вочы мая чарговая субяседніца, супакойвацца. Колькі разоў прашу прабачэння ў неба, што даводзіцца трывожыць скалечаную вайной памяць людзей, хваляваць чалавечыя сэрцы. Ніводзін чалавек, у каго пытаўся пра лёс яго, не заставаўся бясстрасным, абыякавым, калі ўспаміналася вайна. Бо не была яна падзеяй 35-гадовай даўнасці, а была бядой учарашняй, болем сённяшнім, памяццю вечнай.

Веска Карценева. За сталом гаспадары — **Станіслава і Станіслаў БЕРНАТОВІЧЫ**:

— Ранкам 20 лютага 1943 года нас у Сушкі пагналі. Стайня ўжо набіта людзьмі, дык нас у хлеў. Вечарэла ўжо. Хлеў уласаўцы ахранялі. Мы да іх гаворым: «Дзе ж ваша совесць? Якія гэта вы людзі?» А тыя: «А нашага начальніка арыштавалі. Мы ўжо нічога не можам...» Сцямнела. Месяц свеціць. Нас на падводы. Вязуць. Першы дом — спалены. Едзем далей. І ад другога — адны апалкі. Пагыркалі і далей пагналі. Не хапіла на нас агню. Не было ў чым спаліць. Так да Бігосава і дайшлі.

— Аднойчы паступіла каманда распрануцца нагола. Калі гналі ў лазню, спагадлівы латыш на маю дзевачку лахман накінуў.

— Мы стаім локаць у локаць. Аднаму месца даём — ён паляжыць. Падымем. Другі ляжа...

— Потым ад матак адабралі дзяцей. Я не вытрымала: «Пусціце, хай дзеці на матку хоць паглядзяць... Каб хоць фамілію помнілі!»

...А ў дзіцячым бараку ўсе дзеці кінуліся да яе. Кожная маленькая душа дакрануцца хацела да роднага чалавека.

**ЗАМБАР Ніна**, родам з вёскі Зулава, дадае:

— Дождж ліў, ручаі цяклі, а нас забіралі. Муж на фронце, а ў мяне трое дзяцей да школы. Вядуць, а я вучу старэйшую, пяці гадоў: «За хвосцік, дзетка, дзяржыся, за спадніцу». Адзін хлопец — на руках, другога вяду побач. З Зулава — у Сар'ю прывялі, з Сар'і — у Росіцу, у касцёл. Я ўжо з астатняй сілы папрасіла людзей: «Мужчынкі, расхініцеся. Дайце жанчыне прайсці!» Я са сваімі дзецьмі на апошнюю падводу трапіла. Астатніх усіх спалілі...

Як жа абышоўся лёс з гэтай сям'ёй? З Бігосава Ніна Рыгораўна трапіла ў Саласпілс, адтуль у Люблін, дзе за спробу да ўцёкаў «кручок пад санкі (сківіцу) і табурэцік з-пад ног».

Ад знясілення сын Вацік памёр пасля вайны. А меншы, Інька, адбіўся ад маці яшчэ па дарозе ў Сар'ю. Захацелася яму ўцячы ў партызаны. Пазней Іньку самалётам адправілі на Вялікую зямлю. І муж Ніны Рыгораўны, калі вярнуўся з фронту, знайшоў яго аж у Ніжнім Тагіле.

Мужчыны мацнейшыя пры ўспамінах. Хоць і горка, але ўсміхаецца над сваімі нягодамі **МАРХЕЛЬ Савелій**, рабочы завода «Зоаветінструмент»:

— Жылі мы на мяжы з Латвіяй. Былі як бы нейтральныя. Днём немцы прыходзілі, ноччу — партызаны. А 19 лютага 1943 года наляцелі самалёты, агонь кідаюць. Бачым: з-пад лесу шарэнга прэ. Нападзе сцяг нясуць: чорны крыж на ўвесь сцяг. Усё ўжо кругом гарыць...

Брат раніцай у Росіцу пайшоў. Пераймалі. І ўжо карнікі многа людзей перад сабой гоняць. Страшнавата стала. Ірвануў я ад маткі, залез у пуню і сяджу.

Чую: свіней б'юць. Прайшлі факельшчыкі. У пуні мары стаялі: павозка такая, каб снапы вазіць, у другім баку — сена. Гляджу, як адзін распальвае страху. Я — з пуні і за вёску. А тут Няміра Віцька за мяне прычапіўся. Мы ў дыме і праскочылі за агароды. Я ля балота застаўся, а Віцька далей пабег. Ляжу, у лёд умерзшы. Як праз сон, чую — снег рыпіць. У мяне была шапка-будзёнаўка. Скасіўся з-пад

крыла — гляджу, кругом мяне паўмесяцам немцы ў халатах пасталі. Паднялі. «Рукі ўверх!» — скамандавалі. Топаю перад імі ў лапцях.

— Ты чый? — крычаць. А я са страху і сказаць не знаю што. Замест таго, каб сказаць чый, крычу:

— З хлява выскачыў!

Смяюцца карнікі.

Побач з нашым домам Сыльва Іжык жыў. Той таксама схаваўся і таксама няўдачна. І вось нас дваіх гоняць. Бачым — суседняя веска Ціршава ўся пастраляная. Даходзім да Баркова. Дарога завеяна, дык нас наперад адпраўляюць — дарогу таптаць.

Селі адпачыць. Нехта ўбачыў ля рэчкі каня. Тры разы карнік страляў па ім і не пападаў. Пасля чацвёртага стрэлу конь падняўся на дыбкі і асеў. Карнікі зарагаталі: дужа смешна ім было.

Перад намі прайшла калона з Ліпавак. Карнікі ў санях везлі шафы, пасцелі, падушкі...

У Росіцы нас з Сыльвам зачынілі ў лазні і можа забыліся б на нас, калі б лёс зноў не падлажыў свінню.

Раптам праз акенца бачым: немцы ідуць і два кулі саломы нясуць да лазні. «Усё,— кажа Сыльва,— зараз запаляць». Не вытрымаў дзядзька, адчыніў прылазнік і ўзмаліўся: «Паночкі, што мы зрабілі благога!?» А немцы, аказваецца, парасёнка закалолі і на санках везлі пад лазню смаліць. Нічога ім не заставалася, як забраць нас і ў касцёл адвесці.

Трое сутак там прабылі. Ксёндз хлеб насіў у кашолках, падкормліваў людзей. А калі ехалі ў Саласпілс, то ніхто не даваў есці. Чыгуначнік лапату снегу кіне праз акенца— і ўсё на гэтым...

Вось што добра запомніў — як немцы смяюцца. Здаецца, і зараз чую, як гагочуць: калі мяне злавілі, калі каня застрэлілі, калі з нас, голых, у лазні рагаталі. Розныя былі немцы, а іх рогат аднолькавы быў.

Пасля лазні далі прастрэленыя яўрэйскія халаты. Тры дні прасядзелі ў адным бараку, потым перагналі ў другі, разгароджаны дошкамі. На адной палавіне — мужчыны, на другой — жанчыны, усе абстрыжаныя. Адзежыны — аніякай.

Потым вярнулі нас у барак С4. Усе нашы рэчы былі пературэсены. Лепшае прапала, зніклі грошы, пярсцёнкі... Толькі мае лапці былі на месцы...

Што ж можна дадаць да гэтага невясёлага апавядання Мархеля Савелія? Сыльва Іжык загінуў у Майданаку, Віктар Няміра ўцёк да партызанаў, і яны пераправілі яго ў Таржок, у дзіцячы прытулак. Зараз ён жыве каля Рыгі. Савелій Ігнатавіч апошнім выйшаў з вёскі і

першым вярнуўся... на папялішча. З 1957 года ён член КПСС. Пяць дзяцей гадуе. Добры працаўнік, аптыміст... Яго вачамі мы глянулі на яшчэ адну дзіцячую дарогу праз полымя вайны. Вораг паляваў на дзяцей, і калі пакідаў іх жывымі, то дзеля аднаго — як свайго будучага раба, каб у страшным здзеку над яго душой яшчэ раз парагатаць над безвыходнасцю ахвяры.

* * *

Савелій Мархель бачыў атрад карнікаў, які закончыў сваю работу ў лясной вёсцы Ліпаўкі. Давайце і мы вернемся пад яе палаючыя стрэхі, бо знайшоўся чалавек, які ў лютым 1943 года там — зноў жа выпадкова! — застаўся жывым. Гэта **ПІЛЮШЫНА Валянціна**:

— У Ліпаўках да вайны было 96 двароў. У 42-х дварах жыла мая радня. Адна засталася з усяго роду.

Хто вайной не памагаў партызанам? Усе памагалі. І бацька мой памагаў.

З 15-га на 16-га лютага сабакі еліся ўсю ноч, брахалі страшна. Як не палопаліся. У 6 гадзін раніцы чуем стрэл. Карнікі падняліся і пайшлі на вёску. З усіх жыхароў выбралі 25 чалавек: дзяўчат і маладзейшых кабет. У той гурт трапіла і я.

Ліпаўкі палілі 6 немцаў. Астатнія былі памагатыя. Смертнае знамя развявалася: чорнае поле і крыж на ім.

Мучылі нас з 6 гадзін раніцы і да 11. І на калені ставілі, і богу маліцца загадвалі. Як выбралі 25 чалавек, астатніх у пуню загналі. 178 чалавек туды ўмясцілася...

Мы сядзелі ў хаце наўпроціў будыніны, якую запалілі. Гляджу: тату з братам ля вакон у агонь пагналі. Немец і кажа: «Вашых пагналі ў красны лагер!»

Адна жанчына прызналася, што цяжарная. Думала, што можа яе і выпусцяць. Тады немец падышоў да яе, пашчупаў: ці праўду сказала. Яе адразу ж вывелі з хаты і разам з маім бацькам і братам на вуголле кінулі: пастройка ўжо дагарала.

Потым чацвёра сутак прабыла ў росіцкім касцёле. Туды гналі людзей з усіх бакоў. Маладзейшых пакідалі, астатніх — палілі. Ад жанчын адбіралі дзяцей, перадавалі іх бабулькам, каб з імі разам адправіць у агонь. Асірацелыя маткі ад гора валасы на галаве вырывалі. Потым у такой пакутніцы пена з роту пойдзе, і яна канае.

У Саласпілсе мяне пратрымалі адзін месяц: з 20 лютага па 20 сакавіка. Тады ў лагеры толькі адны асвейцы былі. Там таксама выбралі маладзейшых і сказалі, што мы будзем працаваць афіцыянткамі.

Гарбуль з Навікоў кажа: «Чорта ім! Можа ў бардак павязуць...» І мы чацвёра сутак хаваліся па ўборных, глыточка вады не выпіўшы...

**КАРВЭЦКАЯ Варвара** з вёскі Выдрыцкія, што ля Каханавіч, згадвае:

— Сама я родам з Казлова, а ў Выдрыцкіх усіх маіх родных спалілі. Я з двума дзецьмі затаілася пад снегам. Не ўбачылі нас: ляжалі завеяныя. Мы дзве зімы па лесе скіталіся. Першую зіму дзеля дзяцей карову за собой вадзіла. Ні солі не было, ні хлеба. Толькі калі бульбіну спяку ў прысаку...

Тут і рускія прыйшлі, а мы баімося з лесу выходзіць. І не ўздумаць, якое гора перажылі. Хто ж такое забудзе: дзеці, як авечкі, паўміраўшымі ляжаць у лесе...

У Каханавічах гутарыў з **БАДЫНСКАЙ Ганнай**. Ёсць дзеці-сіроты, але ж ёсць і маці-сіроты:

— У Саласпілсе была і мая родная сястра. Яе дачушку латышка была ўзяўшы на гадаванне. Спасіба ёй, ратавала ад смерці. А ў мяне ж адабралі сынка. Бадынскі Уладзімір, 41-га года, 13 сенцябра нарадзіўшыся... Мо дзе акажацца? Якую раду іскала — анічога. Можа вы дзе спросіце?

Пытаўся і пытаюся зноў, шаноўная маці, пра няверанутага вам сына.

У нас існуе вялізны па сваёй сіле дакумент, маю на ўвазе кнігу «Я з вогненнай вёскі...». Таму, калі гутарыў з партызанскім краем, з яго ацалелымі насельнікамі, я стараўся як мага больш даведацца: а што было пасля вогненных вёсак. Пацвердзілася мярзотная і агідная фанабэрыя фашыстаў-звышнелюдзяў, якія ў здзеках над сваімі ахвярамі не давалі ім нават такой міласці, як магчымасць памерці. На гэтым заканчваўся такі гітлераўскі эксперымент, як «вогненная вёска», і пачынаўся эксперымент новы — «смерць у растэрміноўку».

Асвейцы прайшлі Саласпілс, Майданак, Асвенцім, Дахаў, Маўтгаўзен, Равенсбрук і многія, многія іншыя пякельныя кругі, Многія назвы канцлагераў яны не памятаюць, асобныя — проста не могуць выгаварыць сялянскія вусны.

Калі не агонь, то Саласпілс адабраў у іх дзяцей. Не ўсе маці па вайне знайшлі сваіх дачок і сыноў. І вось тут адкрываецца яшчэ адзін далягляд. Як маглі, ратавалі асвейскіх, расіцкіх, сар'янскіх дзяцей маці горада Рыгі. Потым Латвія прытуліла родзічаў гэтых дзяцей, І таму ў Рызе, напрыклад, амаль на кожнай вуліцы жыве адна ці дзве беларускія сям'і...

Такое спарадненне двух народаў, узаемавыручка ў цяжкі час яшчэ раз даказваюць, што савецкіх людзей нельга перамагчы, нават

калі ачмурэлы драпежнік і здолее ўчапіцца кіпцюрамі за краёчак іх роднай зямлі.

* * *

У Жынгель Марыі было да вайны сямёра дзяцей: Пётра — з 22-га года нараджэння, Люся — з 24-га, Ніна — з 28-га, Ліда — з 30-га, Марыя — з 32-га, Віктар — з 34-га, Ваня — з 38-га. Я гутару з Нінай, **Нінай Паўлаўнай ВЫСОЦКАЙ**. Старэйшы брат загінуў у партызанах 21 снежня 1943 года. Яе шлях з росіцкага касцёла пралёг ля печышча роднай хаты ў Саласпілс, адтуль — у Люблін, Равенсбрук.

У Майданаку цэлы год пражыла побач бацькі: Павел Пятровіч быў у суседнім бараку, але бачылася з ім толькі адзін раз. За нейкую правіннасць (можа за тое, што хацеў пабачыць дачку) яго засеклі плёткамі, папярэдне прывязаўшы да кошыкаў.

У Равенсбруку, калі яе разлучылі з маці, дзяўчынку ратавалі чэшкі. Яны хавалі Ніну на трэцім паверсе нараў, кармілі са свайго пайка.

— Аднаго разу я ўжо была ў крэматорыі,— успамінае Ніна Паўлаўна.— Нехта спыніў транспарцёр, які рухаўся ў душагубку. Адна мінута заставалася...

Паўторым мудрае выслоўе, якое гучыць прыблізна так: «Усё пра вайну ведае толькі народ». І таму хай прабачаць нам чытачы, што мы расказваем пра столькі сустрэч, што людзі гавораць часам і не вельмі складна.

У сям'і **СКРЫПКІ Аляксандра** ў мяне адбылася важная па напоўненасці размова — у хаце была і яго жонка Марыя, і дачка Ніна, якая прыехала з Рыгі наведаць старых бацькоў:

— У Росіцы па вайне і гнілой бані не асталося. Пустыр стаяў: тры дні ўсіх палілі. Жывым відам — усіх, здаровых і інвалідаў. Міцкевіч Пётра, будучы ў касцёле, забраўся на верхатуру і схаваўся там. Бачыў, як апошніх сто чалавек у аборы палілі.

Пётра бачыў, як з аборы вырвалася жанчына і, разняўшы рукі, бегла з агню. А яе паднялі на штыкі і зноў у агонь кінулі.

— У 4-х кіламетрах ад Росіцы стаяла вёска Забароўцы. Там быў крыж з распяццем. Сабралі да яго людзей і крыкнулі: «Станавіцеся маліцца!» Паставілі ўсіх і кулямётамі правялі.

-Не болей дзесяці чалавек засталося на сёння даваенных суседзяў...

Сям'ю Скрыпкі фашысцкая няволя загнала аж у Аўстрыю. Вярнуліся на радзіму з-пад Інсбрука.

## БРАЦКІ ПАРТЫЗАНСКІ КРАЙ

Вёска Задзежжа. Я сяджу ў звонкай хаце **ЮХНЕВІЧАЎ**. Дома і Кацярына Сцяпанаўна, і Арсеній Андрэевіч. То адзін з іх, то другі размотваюць перада мною доўгі і пакручасты клубок свайго лёсу.

**Яна**: Мой муж адразу ж пайшоў у партызаны. Спачатку быў у брыгадзе Воранава. Потым ваяваў у атрадзе Арджанікідзе брыгады Захарава... У партызанах ваявалі і два мае браты — Пётр і Дзмітрый Валадзёнкі.

**Ён**: Мы выйшлі за фронт. Часць народу пасля перафарміроўкі назад адаслалі. А я застаўся. Быў у запасным, потым на перадавой. 5 лютага 1944 года мяне раніла: руку перабіла. У Іркуцку лячыўся. Па радыё чую — вольная мая Асвейшчына. Пішу пісьмо. Жонка жывая, робіць у Латвіі. Я і вярнуўся пасля 8-месячнага лячэння ў шпіталі. У Задзежжы — ніводнай хаты. А са мной — як стаю — анічога. І зямлянкі ў нас не было: адной рукой не зладзіш.

Ачуняў я крыху пасля ранення, выклікалі ў ваенкамат. «Годзен!» — сказалі. І я зноў на фронт трапіў. Аж да Берліна дайшоў!

**Яна**: Вайной у нашых хатах адны старыя заставаліся. А калі пайшла экспедыцыя, я з сынам Дзмітрыем, з суседкамі Насцяй Гузік, Васілісай Ігнацёнак у Клясціцкі лес падаліся. Многія ўглыб пайшлі. А мы, як з дзецьмі, спрыхаду засталіся. І папаліся 14 сакавіка 1943 года. У Саласпілсе я пражыла толькі адзін тыдзень. 5 красавіка мы ўжо будавалі дарогу пад Ленінградам. Пасля прарыву нашымі войскамі ленінградскай блакады лагернае начальства разбеглася. Што рабіць? Пайшлі на Рыгу, сваіх дзяцей шукаць. Са студзеня па сакавік 1944 года дабіраліся да Латгаліі. Паліцыя пачала хапаць бежанцаў і зноў заключаць у лагер. Тады мы як бы наняліся да латыша Артура Пальмы. У яго доме ў Паўлавых Блінах і пражылі з сакавіка аж па лістапад 1944 года. Ставіліся там да нас добра. Мы працавалі за хлеб.

Тут яшчэ адну гісторыю варта прыпомніць, У чэрвені 44-га вылучылі 5 матак ісці ў Рыгу, як быццам у разведку: дзе нашы дзеці? Сярод іх была і я. Нам удалося знайсці тыя адрасы, куды вывозілі дзяцей з Саласпілса. Аказалася, што старэйшыя дзеці, крэпкія і здаровыя, былі прададзены, а маленькіх і хворых раздалі тым, хто схацеў браць такіх дзяцей. Але сына не знайшла ні ў спісках памершых, ні ў спісках жывых. Я пачала ездзіць па адрасах тых дзяцей, прозвішчы каторых былі падобнымі на сынава. Так я трапіла ў Сунтажы. Прыехала, паглядзела: не, не мой. Гэта быў Федзя Юхневіч. Яго матка, Маня, ума лішылася, калі ў Саласпілсе ад яе аднялі дзіцёнка, гэтага ж Федзю. Там яе і застрэлілі.

Вярнулася назад. І ўсё думаецца: а мо дзе ў спісках прапусцілі строчачку?

Аказваецца, Міця гадаваўся ў Рызе ў Жукавай Аляксандры. Гэта яна ратавала сына ад смерці. Не хацела мне аддаваць Міцю: вылечыла ж, падгадавала яго...

І ўсё ж 20 чэрвеня 1944 года я забрала сына з Рыгі і прывезла ў Паўлавы Бліны. 12 ліпеня нас вызваліла Чырвоная Армія. І толькі ў лістападзе прыехаў за мною муж.

**Ён**: У сваю зямлянку ўзяла нас Феня Рублеўская. Дзякуй ёй за гэта. А потым мы і сваю так-сяк скалацілі...

**Яна**: Мы хоць жывы засталіся. А ў Мілавідах жа палілі ўсіх, хто толькі з малымі дзецьмі стаяў. Тапілі народ у Свольне, у азёрах Лешня, Доўгае. Марку Мядзела, Тумаша Стому ў раку разам з коньмі піхнулі... Некаму ўжо расказаць, што там дзеелася...

**Ён**: Каля 45 двароў было ў Задзежжы. Пасля вайны сямей 5 вярнулася.

**Яна**: Гузік Настасся згубіла двух сыноў у Саласпілсе: Віктара, 39-га года нараджэння, і Анатолія, 41-га года...

Зараз Юхневічы на пенсіі. Тры сыны прыязджаюць у іх звонкую хату: Дзмітрый — з Рыгі, Міхаіл — з Наваполацка, малодшы Петра — з Ленінграда.

* * *

Многа ўжо кніг выдадзена пра Асвейшчыну. Пісалі пра гэты нескароны куток зямлі беларускай, так званы «брацкі партызанскі край» І. Захараў («Вайна ў краю азёраў»), А. Шамаль («У Сар'янскіх лясах»), І. Мандрык («У суровыя дні»), У. Хазанскі («Спытайце ў бярозаў»), С. Аслёзаў («Узрыў на світанку»),.. І ў латышскай мемуарнай і мастацкай літаратуры часта згадваецца брацкі партызанскі край, які разлёгся з усходу на захад амаль на 100 кіламетраў, а з поўначы на поўдзень больш чым на 80. Нямала сумесных аперацый правялі народныя мсціўцы. 13 студзеня 1943 года каля 700 баявых пабрацімаў удала разграмілі валасны цэнтр Вецслабада за Лудзай, варожы гарнізон Шкяўнэ. Латыш Імант Судмаліс падтрымліваў у баі беларуса Васіля Лукашонка. Прадстаўнік латышскай моладзі Аляксандр Гром смела прабіраўся праз створаны айзсаргамі на былой латвійскай граніцы кардон, каб сустрэцца ў Прошках з беларускімі камсамольцамі.

Не пайкамі Чырвонага Крыжа, не амерыканскай тушонкай častaваліся 15 тысяч байцоў партызанскіх атрадаў Верхнядзвіншчыны. Як назваць тых, хто карміў і абуваў, апранаў байцоў, якія ішлі ці вярталіся з задання, мыў ім бялізну, цыраваў кашулі, падбіваў

абцасы? Як назваць тых, хто за тое, што даў партызану кубак малака з хлебам, гарэў на пякельным агні ўласнай жа хаты? Як назваць тых, на каго злыдзень-карнік пашкадаваў кулю і, сілком вывезшы з партызанскай зоны, выпаліў на жывым целе таўро і прымусіў гнуць спіну ў каменаломнях? Усе яны былі байцамі, змагарамі, ваярамі за зямлю сваю і свабоду.

Столькі многа гавораць людзі ў гэтай кнізе пра бяду і няшчасці, пра вынішчэнне цэлых вёсак, што недасведчаны чытач можа падумаць так: людзі ў сваёй большасці пакорна станавіліся на калені, і карнікам нічога не заставалася рабіць, як спакойна і педантычна расстрэльваць іх з кулямётаў.

Не! Карнікі гіпнатызавалі сваёй нябачанай жорсткасцю абяссіленых страхам людзей, якія да самага апошняга моманту не верылі ў нечалавечую гібель.

Члены Прошкаўскай падпольнай камсамольскай арганізацыі і не падумалі схіліць галаву перад акупантамі. Яны пакляліся, што не пашкадуюць сілы і нават жыцця для барацьбы з фашызмам. Сярод членаў гэтай арганізацыі былі Лукашонкі — Міхаіл Сяргеевіч, Васіль Ільіч, Пётр Аркадзевіч, камуніст, арганізатар супраціўлення — Рыгор Сяргеевіч; Прошкі — Марыя Барысаўна і Фрасення Андрэеўна, Фралёнкі — Яўгенія Усцінаўна і Герасім Якаўлевіч. Апошні быў беспартыйным 60-гадовым дзедам, але дапамагаў ён і падпольшчыкам, і партызанам. Нездарма ў 1943 годзе сям'я Фралёнка была арыштавана, дом спалены.

Потым падпольшчыкі ўліліся ў атрады лясных салдат. Сярод партызан, хто першым быў прадстаўлены да ордэна Чырвонай Зоркі, аказаліся два прошкаўскія камсамольцы — Міхаіл Лукашонак і Пётра Смычкоў...

23 члены налічвала Сар'янская падпольная арганізацыя. Загінула ў чэрвені 1942 года ад рук карнікаў камсамолка Лядак Еўдакія, памёр ад ран 25 жніўня 1943 года былы трактарыст Пілюшкін Павел, 25 верасня 1943 года загінуў у партызанах Чыркуй Мікалай... Усе яны смела выйшлі напярэймы чужынцам. Не была дарэмнай ніводная смерць патрыётаў. Асвейшчына недалічылася потым кожнага трэцяга, нават кожнага другога мужчыны...

Страшнымі і кабарнымі былі чорныя сілы вайны.

34 палымяныя сэрцы — вось з чаго ўзнікла Асвейская падпольная арганізацыя супраціўлення. Даў імпульс яе баявому жыццю камуніст Сімацкі Уладзімір. Гэта было на пачатку жніўня 1941 года. Праз год член бюро Асвейскага падпольнага райкома КПБ загінуў

смерцю героя, паказаўшы прыклад, як можна любіць светлую зямлю продкаў.

Толькі брыгада імя Фрунзе, якой камандаваў І. Захараў з вясны 1942 года да 1 ліпеня 1944 года, вывела са строю 5 163 гітлераўцы.

А якіх патрыётаў выгадавала асвейская зямля! Толькі Мікалай Самусёнак з атрада імя Арджанікідзе ўзарваў 20 эшалонаў праціўніка. Партызан быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Шаблоўскі Іосіф, 1892 года нараджэння, быў удзельнікам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, узначальваў узвод чырвонай гвардыі. Вярнуўся ў родную вёску Гарадзілавічы ў 1921-м годзе пасля ранення. Быў першым арганізатарам калгасаў. Доўга працаваў старшынёй лепшай гаспадаркі.

На пачатку вайны ён памог стварыць партызанскі атрад. Сам разам з трыма сынамі са зброяй у руках прыйшоў у атрад. Выдатна ваявала сям'я Шаблоўскіх! На вялікі жаль, загінулі Васіль і Арсен. Малодшы сын Дзмітрый вярнуўся дадому скалечаным.

У Верхнядзвінску я сустрэўся з Казачонкам Сяргеем, былым воінам партызанскага атрада «Баявы».

Якраз гэты атрад змагаўся з атрадам карнікаў, які быў сфарміраваны не далёка і не блізка, а менавіта ў Парыжы з ліку адборных галаварэзаў, што вызначыліся ў барацьбе з французскімі сіламі Супраціўлення. Так што карнікі — гэта не толькі, як часта пішуць, былыя жулікі, п'яніцы ці панажоўшчыкі, адным словам — дэкласаваныя элементы, набраныя ў паліцэйскія батальёны. Карнікі былі ў большасці сваёй прафесіяналамі, вытанчанымі забойцамі.

І яшчэ невядома, у якую б пустыню ператварылі фашысты не толькі Асвейшчыну, але і суседнія тэрыторыі, каб заслонай на іх шляхах не паўставалі партызанскія атрады. Яны насмерць сталі на рубяжы ракі Свольна і не прапусцілі ворага на супрацьлеглы бераг. А спыніць трэба было 35-тысячную армію з танкамі, авіяцыяй, артылерыяй.

Патрыётаў, як вядома, за некалькі месяцаў не выгадуеш. Яны тут былі спрадвеку, змяняючы пакаленне за пакаленнем. 18 чэрвеня 1942 года ў атрад «Баявы», напрыклад, добраахвотна ўступіў вучань 10 класа Боркавіцкай школы камсамолец Іван Голубеў. Ён хутка вывучыў падрыўную справу і на першую сваю аперацыю выйшаў 5 кастрычніка. На перагоне Дрыса — Полацк на яго міне падарваўся эшалон з жывой сілай і тэхнікай.

Ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалямі «За баявыя заслугі» і «Партызану Айчыннай вайны» II ступені адзначыла дзяржава баявыя справы Лёні Касача, партызана 2-й Дрысенскай брыгады. Спачатку піянер раскідваў лістоўкі ў вёсках Баравуха, Адамова,

Боркавічы, збіраў і перадаваў партызанам зброю. Потым стаў мінёрам. Група, у якой ваяваў Лёня, пусціла пад адхон 12 эшалонаў, знішчыла 23 аўтамашыны... Вясной 1944 года Лёня, ужо камсамолец, прызначаецца камандзірам аддзялення падрыўнікоў. А потым Лёня Касач стаў байцом Чырвонай Арміі. Родным ён пісаў: «Я ганаруся тым, што са зброяй у руках прыдзецца спаткацца з фашысцкімі прыгняталънікамі... Я іду помсціць за сваю Беларусь родную, за пакуты беларускага народа, за разбураныя гарады і сёлы...»

Загінуў Лёня Касач 19 снежня 1944 года.

## «НІВОДЗІН НАРМАЛЬНЫ ЧАЛАВЕК НЕ МОГ ТУТ ВЫЖЫЦЬ...»

— Наш дом стаяў на гэтым самым месцы. У той дзень мая мама Фрасення Іванаўна пайшла ў касцёл маліцца. Прыбегла, калі самалёт пачаў біць па Росіцы. Хто ў лес, а мама ў доме хоча застацца. І ўнучку хоча пакінуць, маю дачку. Але я не аддала ёй.

12 сутак мы ў лесе скрываліся. Акружылі нас і павялі. На заставе палілі. Многа дзяцей пааставалася сіротамі.

І мне прыйшлося трапіць у росіцкі касцёл. Толькі не на службу. З правага боку касцёла выводзілі людзей — у Бігосава, а з левага выводзілі — у агонь...

Гэта расказвае нам **ХАДЗЮК Лідзія** з Росіцы, муж якой загінуў у партызанах.

— Наша хата на два канцы была. Дык кажуць, што ў ёй спалілі каля 500 чалавек. Дзяцей многа было... Вунь тое пажарышча на маім агародзе...

У Саласпілсе я прабыла 5 тыдняў...

У Майданаку Лідзія Міхайлаўна была рабыняй № 3 676. Калі адпраўлялі застаўшыхся ў жывых вязняў глыбей у Нямеччыну, сам камендант Майданака выступіў перад імі. Лідзія Міхайлаўна вельмі добра запомніла ягоныя словы: «Ніводзін нармальны чалавек не мог тут выжыць. Толькі ацалелі рускія...»

Потым быў Равенсбрук.

І зноў пытанне да Лідзіі Міхайлаўны — пра дзяцей. У Саласпілсе адабралі ў яе Тамару. Паводле слоў Лідзіі Міхайлаўны, адміністрацыя Саласпілса раздавала савецкіх дзяцей па хутарах. У каго з гаспадароў было больш зямлі — давалі дваіх дзяцей, дзе менш — аднаго. Тамары выпала жыць на хутары Зімітас, што ля станцыі Ліелварды. У самога гаспадара было пяць дзяцей, а тут яшчэ Тамара...

— Яна спала ў кузні ля печы. Калі знайшла дачку, прусакі яе былі заеўшы... Але ж і то добра, што жыва.

І яшчэ Лідзія Міхайлаўна дадала:

— Тут у нас не так даўно з Рыгі людзі прыязджалі. Адзін мужчына, яго дзіцём у Саласпілсе ад маткі адабралі, шукаў каго-небудзь з родных. Ён толькі помніць адно, што родам з Росіцы. Неяк дазнаўся, якой ён фаміліі быў. А як знайсці роднага? Ніхто не прызнаецца. З Бігосава цётка Юзэфа тожа не прызнала: імя не падыходзіць...

* * *

Новыя Марозы пабудаваліся недалёка ад старых, спаленых. І як звычайна ў беларускіх вёсках, у Марозах, канечне, жыве многа Марозаў.

Я і гутару з **МАРОЗ Фёклай**.

У Саласпілсе сям'я Марозаў (у іх было двое дзяцей) прабыла да красавіка. Старэйшых адпраўлялі на работы, а дзеці...

— Па сотні малых у дзень памірала з голаду ў лагеры. Нас нават у царкву вазілі. Папы пыталіся, як з намі абрашчаюцца. Гаварылі мы, ды што з таго... Не наш бог быў...

Прыйшлося пашукаць на вёсцы яе мужа Вячаслава Мароза. Слухаю яго ўспаміны пра тое, як 16 лютага 1943 года за некалькі гадзін былі спалены разам з Марозамі вёскі Вароны, Данькі, Кавалеўшчына, Спругі...

У Саласпілсе іх трымалі ў бараку 12 «Б», потым перавялі пад Рыгу ў Румбулу. У Саласпілсе перад кожным немцам трэба было здымаць шапку, кланяцца... 24 чалавекі запрагаліся ў дышла калоды, якою ўкатвалі дарогі. Па яго словах, у лагеры было 40 баракаў. У кожным было 3 рады нараў па 5 ярусаў. Сюды прыходзілі агенты, яны вышуквалі ахвотнікаў пайсці працаваць у паліцыю, за што абяцалі надзяліць зямлёй. Толькі ахвотнікаў не было.

Па вайне знайшлася іх дачка (зараз жыве ў Даўгаўпілсе) і сын (зараз жыве ў Ліванах).

На мае пісьмо адгукнуўся сын — Вячаслаў Вячаслававіч, які ў 1960 годзе закончыў Даўгаўпілскі педінстытут і зараз працуе там выкладчыкам. Я і папрасіў яго дапоўніць сямейную хроніку.

— У 1943 годзе немцы разам з латышскімі нацыяналістамі пачалі аперацыю па стварэнню «санітарнай» зоны ў прыгранічных з Латвіяй раёнах, каб не дапусціць пашырэння партызанскага руху на тэрыторыі Латвіі. Былі поўнасцю спалены ўсе населеныя пункты. Жыхароў, што засталіся жывымі, вывезлі ў канцлагеры. Так вось мы аказаліся ў Саласпілсе.

Там частку дзяцей, якіх адлучылі ад бацькоў, размясцілі ў дзіцячым бараку, а другую частку, куды трапіў і я, адправілі ў Лібаву (зараз Ліепая) — у дзіцячы прытулак...

Нас, дзяцей, вывелі, пасадзілі ў аўтобус. Машына кранулася, і я ўбачыў жанчын, якія беглі за аўтобусам і крычалі. Сярод іх наперадзе пазнаў сваю маму. Яна імчалася з выкінутымі наперад рукамі. Пасля даведаўся ад яе, што жанчынам у апошні момант сказалі, што нас адвозяць, і яны праламіліся з суседніх баракаў да машыны...

Запомнілася тая ноч, лес, невядомасць. Шафёры ў аўтобусе кураць, перагаворваюцца па-нямецку. Дзеці паснулі, ды не ўсе: некаторыя румзаюць, усхліпваюць. Мне не хапіла месца на сядзенні, і я ўладкаваўся на запасным коле. Потым скруціўся абаранкам. Засынаю. І зараз мне помніцца: бачу сон. Еду верхам на кані. Гэта наш сусед па вёсцы конюх Мікола ўзяў мяне на выган. Я, шчаслівы, еду на начлег...

І вось я ў дзіцячым прытулку. Усё выхаванне і навучанне там праводзілася на латышскай мове, бо славян там было толькі 9 чалавек. Памятаю, я там павінен быў зубрыць малітвы, спяваць нейкія гімны і маршы. Там былі дзеці рознага ўзросту: ад году да дзесяці. Рэжым для тых, хто мог хадзіць, быў армейскім: пастраенні, перамяшчэнне строем.

Магчыма, і там з нас бралі кроў...

Нам забаранялася падыходзіць да акна. Калі наглядчык прыкмеціць такое або хто данясе, назначае кару: некалькі гадзін стаяць на каленях. Помню знясільваючую работу на кухні: я сяджу ў вялікім катле і драю яго жалезным драчом. Млосна, пот цурчыць руччом. Чую з катла, як хлопчыкі ходзяць строем і спяваюць марш. Ці думаў я пра родных, пра сям'ю? Спачатку — часта. Потым — радзей. Рэзкая змена абставін, другая мова спрыялі гэтаму. А мне ж тады ішоў толькі сёмы год...

Такім чынам, калі праз сем месяцаў маме перад адпраўкай у Германію дазволілі прыехаць за мной, я з ёй гаварыць не ўмеў, хаця яе словы да мяне яшчэ даходзілі.

Маме дапамагла знайсці сына адна жанчына-беларуска. І вось мяне выклікае выхавацелька, прыводзіць у пакой. Ля сцяны стаіць жанчына: знаёмая... незнаемая... Прыглядваюся. Мама! Кідаюся на шыю.

Нас вядуць у кладоўку, дзе знаходзіцца мая вопратка, яшчэ саласпілская. Пазнаю сваё паліто, у кішэні знайшоў сухар, які праляжаў там 7 месяцаў. Мама вядзе мяне праз начны горад. Баюся агнёў, сустрэчных аўтамабіляў... Мама пра нешта запыталася, адказваю па-

латышску. І гавару маме, гавару, пра ўсё расказваю, а мама не разумее. З яе вачэй сыплюцца слёзы...

* * *

Усё настойлівей клічуць далёкія дарогі: трэба ехаць у Латвію, каб паспець пагаварыць з усімі жывымі саласпілсцамі. Ды раптам ліст з Ліепаі:

«...Вы просіце, каб мая мама — Кандратовіч Ксенія— успомніла пра сваё жыццё. Мая мама — хворая, старая жанчына. Успомніць што-небудзь з тых ваенных гадоў ужо ёй не пад сілу. Дый пытацца пра тое баюся. Толькі ўспамінае пра вайну, і ў яе пачынаецца сардэчны прыпадак. У прадстаўленні мамы навечна застаўся Саласпілс такім: доўгія баракі, плач дзяцей, матак, крыклівая нямецкая лаянка.

Ад сябе магу дадаць, што ў нашым горадзе жыве многа беларускіх жанчын, былых вязняў Саласпілса. Раю звярнуцца ў мясцовую газету... Блудніцкая Т. С.».

Я і звярнуўся. Адклікнуўся толькі адзін чалавек. Нялёгка ўзяцца за пяро, калі толькі пры адной думцы аб вайне яна раптоўна і жорстка ўрываецца ў сны...

Перада мной спіс некалькіх вёсак, спаленых разам з людзьмі. У асобных з іх ацалелі адзінкі. Не ўсе яны ўспомнены ў кнізе «Я з вогненнай вёскі...». Калі палілі Залешчына, выбег з падпаленага дома і ўратаваўся ад кулі Цэхан Аляксей, такім жа чынам пашчасціла ўратавацца нямому асілку Пілюшыну Адольфу з вёскі Ладзелева. З Ціршава ўдалося ўцячы сляпой бабульцы Шукель Антаніне. 112 чалавек было спалена ў вёсцы Марцінава. Чацвёра ўцяклі з агню: Абрамовіч Арсеній, Сардыка Уладзімір, Лукашонак Уладзімір, Ламінскі Мікалай. Куля карнікаў пакалечыла пры ўцёках Бохан Марыю, Князюка Васіля, Сардыка Настассю, але ажылі гэтыя людзі. Была паранена ў плячо, ды ўсё ж выбралася з-пад расстраляных Глацёнак Марыя з вёскі Сямёнава.

Росіца, Саласпілс, Майданак, Равенсбрук, Асвенцім — такі вогненны шлях у яшчэ адной маці — Уселенак Анастасіі. Фашысты спалілі яе бацьку Аляксандра Пятровіча за сувязь з партызанамі, загінуў былы старшыня калгаса Павел Якаўлевіч, яе муж. Ратаваўся сын Павел. Быў сынам палка. Зараз працуе ўрачом у Віцебску.

Як тут забыць сухенькую, рухавую цётку Ушакову Анюту. Яшчэ ў маладыя гады яна вывучылася на трактарыстку. Колькі калгасных палеткаў апрацавала сталёвымі плугамі!

У тым чорным 43-м ёй было толькі чуць-чуць за трыццаць, і яе не расстралялі ў гародзе ля студні, дзе палегла 7 чалавек з вёскі

Бароны. Мала яна прабыла і ў Саласпілсе ў бараку 12 «Б». Там, адняўшы ад яе Сашу, сямі гадоў, далучылі да транспарта на Люблін. У каманду трапіла тысяча жанчын і 200 мужчын. У Майданаку Анюта Васільеўна жыла ў адным з 36 драўляных баракаў. У кожным — па тысячы чалавек. Яда: авёс непрасеяны, буханка хлеба на 5 чалавек. Appel — лінейка: 3 гадзіны раніцай трэба было прастаяць, 4 гадзіны вечарам. Спачатку Ушакова працавала ў пральні, потым даглядала хворых дзяўчат, на якіх фашысцкія «ўрачы» праводзілі доследы.

Ушакова расказала і пра метады пакарання вязняў у Майданаку: ахвяру клалі жыватом на скрыню, абабітую калючым дротам, і білі палкамі. Калі толькі ў вязня пачыналі праяўляцца адзнакі хваробы — ацёк твару, ног, яго адпраўлялі, як гаварылі ў Майданаку, на 6-е поле, гэта значыць у крэматорый.

Плакаць вязням забаранялася.

Майданаўскі стаж Ушаковай — без адзінаццаці дзён год.

Потым — медагляд, фатаграфаванне і — Равенсбрук. А там — пад'ём у 4 гадзіны. На каляды і вялікдзень — льгота: у 5 гадзін. Больш году правяла пад зямлёй. За два гады 3 месяцы знаходжання ў канцлагерах ніводнага разу не бачыла гадзінніка. Ушакова падлічыла, што з 200 мужчын, адпраўленых разам з ёю у Саласпілс, дадому вярнулася трое.

Не можа забыць Ушакова першыя словы, сказаныя потым яе Шурам, якога яна знайшла ў Латвіі:

— Мамка, дай хлеба. Я люблю з хлебам спаць...

Першае жыллё іх (бо не змаглі дастаць сякеру) было такое: стог сена. Потым Ушакова наламала алешніку і склала пальчэўе ў пірамідку. Алешнік гэты абклала сенам і, каб яно не развальвалася, прыкрыла зямлёй і дзірваном.

* * *

У адной з газет нядаўна я вычытаў, што нехта Людвіг Бок з ФРГ, адвакат, зрабіў такі вывад: «Падобныя працэсы (суды над ваеннымі злачынцамі.— С. П.) час забараніць. Каму прыносіць карысць калупанне ў мінулым? Бо мёртвых усёроўна не ўваскрэсіш. Я дапускаю, што ў Майданаку мелі месца жорсткасці, але сцвярджаць, што там было забіта 250 тысяч чалавек, прабачце, гэта абсурд».

З ім на гэтую тэму хацела б пагаварыць Станкевіч Альбіна (вёска Карценева), былы вязень Саласпілса, Майданака, (Асвенціма № 87025), Равенсбрука і яшчэ аднаго, назвы якога жанчына не памятае, але добра ведае, што той размяшчаўся ля Бухенвальда.

— З красавіка 1943 года я была ў Майданаку. Там на кожным кроку памiралi. На мне таксама доследы праводзілі. Калі аднойчы мы ў полі працавалі, на нас святло нейкае накіравалі з будкі, што стаяла на гэтым жа полі. Рукі і ногі адразу аслаблі. Пухіры ўзняліся, вада з іх пацякла. Вечарам — праверка, камісія ходзіць: забралі нас, хворых, па-свойму лячылі. І кроў бралі. Многа бралі, бо аж млела, хадзіць не магла.

За нейкую правіну паставілі нас, пяць-шэсць дзяўчат, між дроту, па якім пусцілі ток. Стаялі, пакуль не страцілі прытомнасць...

* * *

Вельмі многія людзі расказвалі мне, як яны бераглі даваенныя сямейныя фотаздымкі, асабістыя дакументы. Безназоўнаму чалавеку, які быў нумарам у фашысцкай гаспадарцы, лягчэй было толькі ад таго, што недзе ў куртцы ён адчуваў зашытае фота бацькоў, метрыку... А Мароз Валянціна з Росіцы нават праз славутую лазню ў Саласпілсе, калі голай па снезе трэба было бегчы не адну сотню метраў, пранесла адразу некалькі дакументаў: пашпарт, камсамольскі білет, фотаздымкі родных, сярод якіх фота брата-чырвонаармейца. Загінулі ў Майданаку яе бацькі — Восіп Іванавіч і Домна Яфрэмаўна. Там жа, у Майданаку, калі Валянціну Восіпаўну адпраўлялі ў Равенсбрук, рассыпалася ў лазні пергаментная папера, у якой яна складвала дакументы. Гэта ўсё прыкмеціла немка. Тады Валянціна Восіпаўна скруціла дакументы ў жмут і пачала іх жаваць. Немка ўдарыла яе ў спіну, паваліла на распаленую жалезную печку, але дакументы адабраць не змагла...

Што толькі не здараецца з чалавекам на яго пакручастых дарогах жыцця...

## ПАЎСТАНЦЫ

Гэты раздзел прысвечаны толькі аднаму чалавеку — слесару-зборшчыку бігосаўскага завода «Зоаветінструмент», былому салдату 35-га асобнага ваенна-будаўнічага батальёна Пятру Уселенку.

Мы гутарылі з Пятром Іосіфавічам на заводзе ў перапынку паміж работай. Да гэтага былі лісты ад яго. Была паездка і на яго радзіму, у Росіцу. Уся яна спалена карнікамі 16 лютага 1943 года, загублена 700 чалавек. Тых, каму гітлераўцы наканавалі смерць у растэрміноўку, пагналі на Захад, у рабства. Вось што расказаў пра гэта **Пётр УСЕЛЕНАК**:

— Мне было 16 гадоў, калі карнікі спалілі партызанскую Росіцу. Усё памятаю да драбніцы. Аднасяльчан заганялі ў будынкі па 50-70 чалавек і спальвалі. Людзі лезлі праз вокны, ламіліся ў дзверы, а фашысты стралялі з аўтаматаў і вінтовак. Ацалелых гналі на станцыю, кідалі ў вагоны, якія закручвалі калючым дротам. Без вады і яды адпраўлялі іх у канцлагеры...

У Саласпілсе я даведаўся, што маці з братам знаходзяцца ў бараку С4, а я аказаўся ў бараку С9.

У лагеры мы адразу ўбачылі звярыную лютасць фашызму. Нас заганялі ў халодны барак па 400-500 чалавек: жанчын, дзяцей, падлеткаў,—успамінае Пётр Іосіфавіч.— Распраналі, вопратку забіралі, стрыглі валасы, аблівалі халоднай вадой. Потым голых пераганялі па снезе ў другі барак, дзе мы на гнілой саломе з маленькімі дзецьмі знаходзіліся каля двух тыдняў. Гаварылі, што гэта каранцін. На дзень давалі 200 грамаў хлеба з апілкамі і нейкую баланду, прыгатаваную з гнілой бульбы і капусных лістоў. А працавалі па 12-14 гадзін і болей. Праз паўтара месяца ад матак сталі адбіраць дзяцей. Жанчыны станавіліся чорнымі ад гора і мук, непрытомнелі. Гэта было страшэннае відовішча: дзіцёнак плача, крычыць: «Мама! Мамачка! Міленькая!» Здаецца, сэрца разарвецца ад пакутаў. І ад маёй маці адабралі шасцігадовага сына. Мы яго знайшлі толькі праз 18 гадоў пасля вайны.

Вечарам 28 красавіка 1943 года калону вязняў пасля работы падвялі да барака. Ля дзвярэй стаяла некалькі немцаў. Людзей па адным прапускалі ў барак. Афіцэр жа выбіраў якога-небудзь падлетка і адводзіў убок. І мяне за рукаў вывеў з калоны і спытаў па-руску, колькі гадоў, ці здаровы, ці былі пераломы рук, ног. Потым скамандаваў: «Падымі рукі... Паскачы!» Я апынуўся ў групе хлопцаў, сярод якіх ужо стаялі мае землякі Шаўрак Антон, Замбар Чэся, вучні Росіцкай школы Валодзя Завадскі, Валодзя Станевіч... Потым нас, чалавек дваццаць, падвялі да камендатуры, пасадзілі ў крыты грузавік. Спачатку мы меркавалі, што павязуць, як гэта ўжо было, на работу ў другі маёнтак. Але нас павезлі праз усю Рыгу, і яшчэ хвілін сорак мы ехалі за горад. На беразе Кіш-возера стаяла 4-6 невялікіх будынкаў. Гэта быў хутар «Сужы-муйжы». Да пачатку чэрвеня мы займаліся толькі гаспадарчымі работамі. Штодзённа прыбаўлялася па 2-3 чалавекі, пакуль не стала 37, Гэта былі хлопцы ў асноўным з-пад Асвеі, Сар'і, Каханавіч, Росіцы, Себежа.

І вось на пачатку чэрвеня пад'ехала накрытая брызентам машына. Бачым: нямецкая уніформа. Нават ёсць чаравікі невялікіх памераў. Пагаворвалі, што з нас хочуць зрабіць паліцаяў, ды мы не верылі. А тут загадалі памыцца і пераагіранущца ў нямецкую форму.

Хлопцы адразу сталі панурымі, перасталі паміж сабой размаўляць, некаторыя нават заплакалі.

І вось мінула тры-чатыры дні, і нехта збег. Але праз некалькі дзён уцекача злавілі ў Рызе, прывезлі назад і пасадзілі ў склеп. Праз дзесяць сутак нас усіх пастроілі, вывелі хлопца, і немец, па-руску зачытаў прысуд ваеннага трыбунала; за дззерцірства — расстрэл. А потым звярнуўся да нас:

— Хто хоча расстраляць мярзотніка — выйсці са строю!

Усе мы стаялі так ціхутка, што чутно было, як праляцела муха. Канешне, ніхто не выйшаў. Свой загад немец паўтарыў тры разы. Ніхто не згадзіўся. Тады немец дазволіў уцекачу стаць у строй, сказаўшы, што яму даравана жыццё. Але праз дзён дзесяць збег яшчэ адзін хлопец. Ён быў злоўлены, і немцы на гэты раз не выкідвалі жарцікі. Зачыталі прысуд і павялі на расстрэл. Ён ад канвойных пусціўся наўцёкі, але да лесу не дабег: скасіла аўтаматная чарга.

Аднойчы да мяне падыходзіць Валодзя Завадскі і кажа:

— Пятро, не надумайся ўцякаць, перастраляюць усіх. Будзем чакаць лепшых дзён.

25 жніўня 1943 года нам выдалі нямецкія вінтоўкі, але без патронаў, у Рызе пасадзілі ў вагон і некуды павезлі. Мы адчувалі, што нечая моцная рука падтрымлівае маладыя душы. Адзін другому перадавалі: не ўцякаць, трымацца разам, аж пакуль не адшукаем партызанаў.

Далей падзеі разгортваліся так. Спачатку каманда аказалася ў горадзе Порхаве на Пскоўшчыне, а потым у вёсцы Запалянне, што між Порхавам і Дном. Там у звычайнай пуні, абнесенай дротам, немцы размясцілі лагер, дзе знаходзілася каля 200 чалавек. Немцаў, відаць, адправілі на фронт. Несці ахову лагера павінна была цяпер саласпілская каманда.

Падпольная група ўвесь час імкнулася наладзіць сувязь з партызанамі. Гэта ўдалося зрабіць у другой палове верасня 1943 года. У ноч на 25 верасня павінна было адбыцца паўстанне. Меркавалася, што на дапамогу падыдуць партызаны.

— Мяне,— працягвае Пётр Іосіфавіч,— прызначылі ў групу суправаджэння — выводзіць вязняў праз дрот. І вось да поўначы застаецца 20 мінут. 20 мінут да Угнала. Раптам з боку шашы паказалася калона машын. Едзе проста на Запалянне. На вялікай хуткасці машыны пад'язджаюць да лагера, з іх выскокваюць немцы. У момант акружаюць лагер, ставяць наўкруг станковыя кулямёты.

Хлопцы зразумелі: здрада...

Раніцай пачаліся допыты з катаваннямі. Калі немцы нічога не дабіліся, сталі выклікаць тых, хто ноччу быў на пастах. А на пасты былі падабраны смелыя, моцныя хлопцы. Пад канвоем іх выводзілі ў лес за дом каменданта, распраналі і расстрэльвалі, скідаючы трупы ў старую траншэю. Антон Шаўрак пераскочыў траншэю і кінуўся ў кусты. Па ім ударылі з аўтаматаў і кулямётаў, паранілі ў нагу. Прывалаклі да траншэі і сталі дабіваць прыкладамі. За ўсім гэтым назіралі з лагера саласпілскія хлопцы і чакалі сваёй чаргі. Але расстралялі толькі 18 чалавек, астатніх пагналі ў Порхаў катаваць. А ўсіх вязняў Запалянскага лагера вывезлі ў Саласпілс. Праз некаторы час вярнулі туды і астаўшыхся у жывых паўстанцаў.

Як потым даведаўся Пётр Іосіфавіч, прадаў іх у Запалянні Сашка-кат, Тах хлопцы клікалі аднаго мярзотнікаперакладчыка. Дык вось, у Штутгафе запалянскія паўстакцы сустрэліся з ім другі раз. Апазналі «вязня» і паведамілі падпольнай групе пра яго ранейшую прафесію. Шпік панёс справядлівую кару.

— Я не магу сёння перадаць нават сотай долі ўсяго, што перажыў, што бачыў. У лагеры я быў не чалавек, у мяне не было нават імя, а толькі нумар — 55 815. Прыпамінаю Гузен, дзе пяць баракаў лагера былі агароджаны калючым дротам і называліся «бальніцай». Мала хто адтуль вяртаўся. Часам фашысты, каб пацешыцца, прыносілі ў кошыку нарэзаныя па 50-70 грамаў лусткі хлеба, ставілі кошык ля першага барака, а потым кідалі людзям хлеб, як сабакам. Згалададых ушчэнт вязняў збіралася тады мо сотні. Прыходзілі. нямецкія афіцэры, глядзелі на цісканіну і рагаталі над галоднымі людзьмі, фатаграфавалі іх.

Неяк летам 1944 года ўсіх вязняў палкамі загналі ў баракі. Сказалі, каб ніхто не выходзіў: прыедзе высокае начальства. Я трапіў у першы барак і назіраў, як расчыніліся вароты і група нямецкіх афіцэраў увайшла ў лагер. Сярод іх быў Гімлер, обер-фашыст у чорным мундзіры, з акулярамі. Ён наведаў Маўтгаўзен і Гузен, калі лагеры былі запоўнены трупамі людзей, калі ў іх панавалі смерць і голад. 1 ён любаваўся нашым лагерам...

Васемнаццаты. год ішоў Пятру іосіфавічу, калі расчыніліся вароты лагера і паветра волі ўдыхнулі былыя вязні. Ад Гузена да Лінца ў Аўстрыі — 18 кіламетраў. Ён дзе ішоў, дзе поўз на каленях. Не было сілы, не трымалі ногі. Важыў ён усяго 28 кілаграмаў.

— А потым амерыканцы ўсіх загналі ў нейкі лагер. Правакавалі савецкіх людзей, узводзілі паклёп на нашу Радзіму. Страшылі нас, каб мы не вярталіся на Бацькаўшчыну. Але ў мяне жыла думка: «Толькі на

Радзіму!» І якой вялікай была мая радасць, калі падышлі чырвонаармейцы...

Пётр Іосіфавіч трапляе спачатку ў шпіталь пад Венай, дзе ачуньвае ад перажытых выпрабаванняў. Потым становіцца байцом Савецкай Арміі, служыць у рамонтна-будаўнічым батальёне. Бо савецкія воікы не толькі вызвалялі ад гітлераўцаў гарады і сёлы Еўропы, але і дапамагалі іх уздымаць з руінаў.

— У Вене некалькі пралётаў маста ляжала ў Дунаі. Калі мост быў намі адноўлены, прайшло яго выпрабаванне. Па мосце пусцілі 9 танкаў Т-34. Прыборы паказалі, што вібрацыя маста ў норме. Здаецца, уся Вена прыйшла на плошчу. Нам дарылі кветкі, цёпла віталі нас.

Прысутнічаў я ў Вене і на ваенным парадзе чатырох саюзных дзяржаў. Радасна было бачыць, як венцы літаральна закідвалі кветкамі савецкіх воінаў-вызваліцеляў. І мы былі такімі гордымі за нашу Радзіму, за наш народ, за нашу армію. У тыя дні ніякія плошчы не ўмяшчалі ўсіх жадаючых паслухаць канцэрты савецкіх артыстаў. На ўсё жыццё запомнілася, як спявала ў Вене Лідзія Русланава!

Самая цяжкая работа чакала нас у Браціславе. Там фашысцкія варвары ўзарвалі ўсе апоры моста праз Дунай.

Потым у Венгрыі мы абяшкоджвалі палеткі ад боепрыпасаў, каб людзі маглі тут араць зямлю, сеяць хлеб.

Наш атрад дапамагаў і румынам аднаўляць чыгунку... Многа яшчэ прыйшлося перамераць зямлі, аднаўляць разбуранае...

Амаль што разам вярнуліся з Еызваленай Еўропы сын і маці. Эмілія Рыгораўна прайшла пакуты Саласпілса, Майданака, Асвенціма. Адно засмучала: няма другога сына, Іосіфа. Толькі дванаццаты пошук аказаўся шчаслівым. Бо шукалі Уселенка, а брат Пятра быў названы Язэпам Усельніксам. У Саласпілсе ў яго выбралі кроў і выкінулі амаль напаўжывога. Адзін латыш падабраў дзіцянё і выратаваў, І толькі гіраз 18 гадоў пасля вайны сустрэліся родныя. Язэп Усельнікс і зараз жыве ў Рызе.

## «ГЭТА МАЯ МАМА ПРЫЕХАЛА!»

Я хацеў бы ўспомніць некалькі слоў грузінскага пісьменніка Надара Думбадзе. Гэта яму за кнігу «Закон вечнасці» прысуджана Ленінская прэмія 1980 года. Дык вось, калі Надар Думбадзе аднойчы ездзіў у Турцыю, да іх, групы грузінскіх пісьменнікаў, падышоў чарнавокі, чарнабровы хлопчык.

— Я грузін,— сказаў ён.

— А па-грузінску чаму не гаворыш?

— Мама памерла.

Так вось і мне не раз прыходзілася сустракацца з людзьмі, якія па волі лесу былі разлучаны з маткамі, і матчына мова прыходзіць да іх тады, калі трэба выказаць нешта адпомненае, душэўнае... І як сведчанне гэтага — горкія словы **ГЯЧ Ядвігі**:

— Мой муж пайшоў па першай мабілізацыі. Незадоўга пасля гэтага і сын нарадзіўся — у 41-м. Вайной жыла ў Спецях, вёсцы невялікай, на 12 двароў, амаль што на мяжы з Латвіяй. Аднаго разу карова дрот пералезла, за «граніцу» трапіла, дык доўга цягалі мяне паліцэйскія ўлады...

Як ехалі ў Саласпілс, па дарозе не кармілі. Лёду, праўда, немцы кідалі ў вагон.

Праз тры дні ў Саласпілсе пачалі адымаць дзяцей. Падышоў паліцай у чорных акулярах, вырывае сына. Набралася сілы і смеласці, крычу яму:

— Сама панясу, куды нада!

А малы плача, не стрываць. Падношу яго да машыны:

— Зося, Дуся! Глядзіце Генадзіка!

Вось ужо і бірачку вешаюць. Я закруціла яе пад самую шыю. Году ж дзіцёнку не было, яшчэ адарве незнарок. Куды павезлі сына — не ведала. А потым і дзяўчынку шасці гадоў адабралі. А мяне — на транспарт. Дзень і ноч у Любліне народ падаў. Там загінулі з Росіцы Гажэўскія з дзецьмі, з Каменцаў Оля Усеаенак. Як снапы, валіўся народ. Сілос елі, шпінат з карэннямі, бо нам, рускім, пакеты Чырвонага Крыжа не перадавалі. А мы работалі і пасля сілосу. І табаку палонным пераpадавалі.

Як сын знайшоўся?

Ратавала яго Мініч Ядвіга з Рыгі, А быў Генадзька спачатку ў Лібаве ў дзетдоме. Мініч расказвала, што ў Генадзя жывот быў, як семярых радзіць. На твар шэрсць выйшла. Жылы сінія цягнуліся па целе.

У Рызе мне паказалі спісы дзяцей. Памёршыя — закрэслены. Сказалі, што мой сын гадуецца ў дзіцячым доме «Ігатэ». 75 вёрст дабіралася. Прыехала, а мой сын ужо па-нашаму і не гаворыць, Але мяне пазнаў і крыкнуў (потым мне пераклалі): «Гэта мая мама прыехала!» Мне раілі ў дзіцячым доме: «Не бяры сына!» Як гэта «не бяры»? Тады напісалі на паперыне словы, з якімі я магла б да сына звяртацца... Вось і ехала на Беларусь: з сынам і паперкай той.

* * *

Дзе толькі не прыйшлося шукаць матэрыялы, каб да тэмы Асвейшчыны далучыць хоць нейкі новы штрышок. Значнай паказалася мне публікацыя ў часопісе «Огонек» (№ 12-13 за 1945 год).

Пра што ж пісала ў вызваленай Рызе латышская пісьменніца Ганна Саксэ? Яна наведала толькі адзін з былых юрмальекіх дзіцячых прытулкаў. У Булдуры стараннямі дырэктара дзіцячага дома Рытмэйстэрэ, доктара Харытонавай, медсястры Грабоўскай рабілася ўсё для таго, каб бедныя сіроткі, наколькі можна, забыліся пра чорны жах саласпілскіх баракаў.

Ганна Саксэ пісала:

«Усмешка рэдка кал! асвечвае твар Тамары Пузанскай. Зараз ёй 10 гадоў, Цэлы год у прытулку яна не вымавіла ні слова, і ўсе думалі, што яна нямая. На вачах у гэтай дзяўчынкі немцы жыўцом спалілі яе маму, Гэта было ў Беларусі, у вёсцы Любасна Віцебскай вобласці...»

Ганна Саксэ пісала і пра 5 дзяцей Лемяшонкаў, бацьку якіх забілі ў турме, а маму разам з 14-гадовай сястрой Нінай адправілі ў Германію. Пра сям'ю Лемяшонкаў можна было б напісаць цэлую кнігу. У сапраўднасці ў Аляксандра і Георгія Лемяшонкаў з Асвеі былі Клара (цяпер — Галіна Сцяпанаўна Ігнаценка, юрыст мінскага трактарнага завода), Ніна (Ніна Георгіеўна Абрамава, настаўніца школы ў Рызе), Жэня (Яўгенія Ігараўна Рамашонак, выхавальніца аднаго з дзіцячых дамоў), Наташа (Наталля Георгіеўна Зубкова, урач у Рызе), Барыс Георгіевіч Лемяшонак (жыве і працуе ў Караганцзе), Шура (Аляксандр Рыгоравіч Лемяшонак, працуе ў Рызе)... Пра яшчэ аднаго маленькага чалавека — сваю сястру Аню Наташа Лемяшонак так расказвала на судовым працэсе па справе аб злачынствах нямецка-фашысцкіх захопнікаў, які праходзіў у Рызе ў 1946 годзеі «Калі падышла мая чарга, доктар вырваў Аню з рук і палажыў на стол. Пры гэтым доктар уваткнуў мне ў руку іголку, а калі набраў поўную шкляную трубку, адпусціў мяне і стаў выбіраць кроў у маёй сястрычкі Ані. Я стала крычаць і плакаць. Немец паглядзеў на нас і нешта сказаў, а салдат, які стаяў побач, засмяяўся: «Господин врач говорит, чтобы не плакали: девочка все равно умрет, а так от нее хоть какая-нибудь польза будет». Потым праз дзень нас зноў павялі да доктара і зноў бралі кроў. У хуткасці Аия памерла. У нас усе рукі былі паколатыя. Кружылася галава. Кожны дзень паміралі хлопчыкі і дзяўчынкі».

На гэтым жа судзе, дзе выступала сведкам асвейская дзяўчынка, людзі даведаліся, што ў Латвіі самым жорсткім чынам было знішчана больш за 40 тысяч савецкіх дзяцей. Толькі ў Саласпілсе насільна бралі

кроў у 12 тысяч дзяцей. Для нямецкіх шпіталяў было выкачана 3 тысячы 500 літраў крыві.

Толькі праз 34 леты, у 1976 годзе, нарэшце ўбачыліся (і то не ўсе) застаўшыяся ў жывых дзеці з роду Лемяшонкаў. Пра гэтую сустрэчу пісалі газеты «Известия», «Вячэрні Мінск».

А зараз нагадаем яшчэ некалькі радкоў з артыкула Ганны Саксэ: «Вельмі бледным і схуднелым выглядае і Дзіма Саксонаў, у якога гітлераўскі ваенны ўрач адсасваў кроў 15 разоў».

У сапраўднасці ж прозвішча Дзімы — Саксон. І нарадзіўся ён таксама на Асвейшчыне, у вёсцы Крэўнікі. Удалося адшукаць яго маці — **Валянціну МЯДЗЮТА**. Яна нам дапоўніць тых некалькі радкоў латышскай пісьменніцы:

— 6 гадоў было Дзіму. А Вацлава, 13 гадоў, аказваецца, у Росіцы спалілі, а яму ж нада было ісці ў 4-ты клас.

Пасля каранціна нядоўга прабыла ў Саласпілсе, Аднялі Дзіму і назаўтра павезлі ў Майданак. А Дзіма трапіў на хутар. Толькі дрэнна было талл маломy. У хату не пускалі, спаў разам з сабакам. Знайшла яго пасля вайны ў Сігулдзе, у дзетдоме. Быў хворым. Так і не ачуняў у мяне. З вушка і памёр ён у 1949 годзе...

У часопісе «Огонек» я ўжо бачыў маркотны воблік Дзімы сярод падобных на яго аднагодкаў. І вось Валянціна Аляксандраўна паказвае яшчэ адзін здымак, 1946-га года. Такі ж засяроджаны тварык. Дзіма сядзіць з маці і трымае яе падарунак — гармонік. Праз два гады гэты гармонік асірацеў.

* * *

У мяне некалькі пісьмаў былых вязняў Саласпілса. Чытаю пісьмо **ПАРАДНІК Надзеі** з Ленінграда:

«Я не ведаю, ці змагу вам дапамагчы ў пошуках, бо я ж нічым гераічным не вызначылася, толькі прыняла ўвесь жах і пакуты Саласпілса. Нарадзілася я і жыла ў вёсцы Корнікі. Немцаў вайной мы бачылі рэдка, толькі тады, калі яны прыязджалі грабіць насельніцтва, У нас гаспадарамі становішча сталі партызаны. Муж маёй старэйшай сястры Аляксандр Шаўрак таксама стаў партызанам. Калі пачалася экспедыцыя, мы пайшлі ў лес. Там нас і ўзялі: мяке, мадлу, хворага брата Колю і сястру з дзіцём. Муж яе пайшоў з атрадам, а мы, адыходзячы, трапілі на карнікаў.

У мяне яны пыталіся: «Коля — партызан?» Я ўвесь час гаварыла: «Не!» Тады мяне адвялі да другіх палонных, з якімі і вывезлі ў Саласпілс, а сям'ю спалілі. Гэта было ў лютым 43-га.

Веру ў жыццё, як ні дзіўна, мне вярнуў Саласпілс. Там жылі людзі, якія нам гаварылі, што трэба з усіх сіл трымацца, бо рускія ўсё роўна вернуцца. Гэтыя людзі былі латышамі, камсамольцамі, палітвязнямі. Аднойчы я страціла прытомнасць. Ачнулася на верхніх нарах пад розным хлам'ём. Гэта мяме схавалі латышы. Адзін з іх, яго звалі Янам, карміў мяне сухарамі. Гэта ён мне дапамог перамагчы смерць, ён ратаваў ад гібелі, бо знясіленых адпраўлялі ў смяротны барак, адкуль не было вяртання.

Які след пакінуў Саласпілс у маім лёсе?

Не ведаю, як тут правільна адказаць, Гэты след застаўся на ўсё жыццё: нянавісць да фашызму, да вайны... Гэты след — хвароба сэрца і, як кажуць, нерваў. І нават у самыя вясёлыя хвіліны, калі я падыходжу да люстэрка і бачу сябе сівой (я пасівела ў Саласпілсе на 15-м годзе жыцця), перад вачыма паўстае вайна...»

На гэты ліст я паслаў Надзеі Восіпаўне новы, з розным! Дадатковымі пытаннямі. І вось нібы чую, як гаворыць са мной беларуская ленінградка:

— Ад Грэзэ Паўлса, на хутары якога жыла пасля Саласпілса, я выехала восенню 1944 года. Іm не пісала. Нават не ведаю, чаму. Проста не змагла паверыць, што я дома, што нікога не трэба баяцца.

...Паліцэйскіх назваць не магу, бо з нашай вёскі немцам ніхто не служыў...

...Аднойчы раніцай з нашага барака фашыст выбраў маладых прыгожых дзяўчат. Вечарам яны прыйшлі ў барак і з плачам кінуліся да сваіх родных развітвацца. Яны былі чыстымі і добра апранутымі. Немцы іх адрывалі ад родных і валачылі ў аўтобус. Дзяўчаты толькі паспелі сказаць, што іх вязуць да афіцэраў.

Дзяцей старэйшых не раздавалі па хутарах без недаросткаў. Так вось і мой гаспадар: яму патрэбна была пастушка, якая б і па гаспадарцы дапамагала, і ўмела за статкам прыглядаць, а летам і на жніве была. Яго заставілі акрамя мяне ўзяць і шасцігадовага Эдзіка Тазікава. Гэты хлопчык быў са Смаленска, але летам 1941 года прыехаў да бабулі на Асвейшчыну, дзе яго і забралі немцы.

Спачатку мы з ім па-латышску не разумелі, а па-нашаму ніхто з намі не гаварыў. І калі мучыў нясцерпны сум, гэты Эдзік прыходзіў да мяне, садзіўся побач і гаварыў:

— Давай я табе раскажу: «Одеяло убежало, улетела простыня...». А хочаш — пра дзеда Мазая?

Ён ведаў толькі два гэтыя вершы. Я слухала іх, і мне станавілася лягчэй...

У госці да гаспадара часта прыходзілі рускія муж і жонка, якія працавалі на Кегумскай электрастанцыі інжынерамі, Аднойчы руская цёця прытуліла мяне і ціхенька сказала, што хутка прыйдуць нашы. Але потым рускіх не стала. І калі я спытала пра іх у гаспадыні, тая адказала, што іх арыштавалі, бо знайшлі рацыю...

* * *

Не першы раз я адпраўляюся ў Рыгу. Якраз там нараджалася вось гэтая кніга. Ніводнага слова тут не прыбаўлена да таго, што сказана людзьмі, што сведчаць дакументы. Ды і ці можна дабавіць да позірку Асвеі — слязінак, да ўздыху Сар'і — тугі, да памяці Росіцы — попелу пекла, да пульса Саласпілса— надзеі?

АД ГІСТОРЫІ. І. (Толькі для бежанцаў ваеннага часу з тэрыторыі СССР. Латвійская генеральная акруга. Пасведчанне асобы № 1160. Тэрмін годнасці — да 7 ліпеня 1944 г. Прозвішча — Шутко, імя — Тамара. Дата нараджэння— 1935 г. (...). (Фотакартка). (Пячатка). Подпіс адсутнічае ў выніку маленства ўладальніка пасведчання. Адбітак указальнага пальца. Рыга, 7-га лістапада 1943 года. Штамп: «Рыжская прэфектура» (...). Апазнавальны знак дзіцяці № 5 223.

II. Дагавор аб патранажы над дзіцём. Міністэрства асветы здае і грамадзянка Зіедыньш Лізавета... прымае на патранаж, лічачы з 15 кастрычніка 1944 года, Шутко Тамару Мікалаеўну, якая нарадзілася 7-га лістапада 1935 года, на наступных умовах: 1. Той, хто патраніруе дзіця, абавязуецца... (Усяго ў дагаворы 9 пунктаў абавязацельстваў — С. П.). Звесткі аб бацьках дзіцяці. Бацькі расстраляны як партызаны.

АД АЎТАРА. Тамара Мікалаеўна, калі з ёю сустрэўся ў Рызе, сказала, што яна не ведае дакладную дату свайго нараджэння. Але 7 лістапада 1943 года да яе падышла жанчына і назвалася мамай. Гэты дзень яна і лічыць днём свайго нараджэння.

**ШУТКО Тамара**: Пасля таго, як за сувязь з партызанамі расстралялі ў Росіцы бацькоў, мяне з братам узялі да сябе сваякі. Але калі гіайшла карная экспедыцыя, спалілі і іх. Везлі нас, дзяцей, на падводзе. Бачыла, як у Росіцы родны дом дагараў, нейкім ружовым полымем палалі яблыні. У адным двары стаяла жанчына з дзіцём. Немец-канваір штосьці крыкнуў ёй, а потым падбег, выхапіў дзіцё і ўдарыў яго галавой аб вугал. І так гарэзліва зноў сеў на падводу. Жанчына кінулася на фашыста, але ўпала пад аўтаматнай чаргой.

Памятаю, як па бараку ў Саласпілсе хадзіла тоўстая жанчына. Прыйдзе, паглядзіць, хто з нас больш падыходзячы. Потым за перагародкай нам перавязвалі жгутом руку, утыкалі іголкі... Пасля ўзяцця крыві нам належала міска баланды. А вясной дзеці дажджавых

чарвякоў капалі і елі. Елі траву, якая толькі траплялася. А неўзабаве з братам Аляксандрам я апынулася ў Рызе, у дзіцячым доме. Праз чатыры месяцы мы з ім згубіліся і сустрэліся толькі праз 20 гадоў. Памятаю восень у Саўлкрастах. Нас кармілі адной бульбай (навараную высыпалі кучай на стол). Мы былі як павукі — на тонкіх нагах, з вялікімі жыватамі.

Лізавета Зіедыньш гаварыла потым, што я пасля дзіцячага дома яшчэ цэлы год не смяялася. І яшчэ я даведалася, што ўсіх дзяцей у калоніі ў Саўпкрастах фашысты перад тым, як уцячы, атруцілі. Лізавета Францаўна і Іван Раманавіч хавалі мяне, калі прыходзілі жандары забіраць на транспарт, схавалі і тады, калі, адступаючы, акупанты збіралі такіх, як я, дзяцей на параход. Вырасла я ў іх, скончыла вучылішча паліграфістаў.

Зусім выпадкова пашчасціла адшукаць брата. Ён жыў на хутары Ушуры каля Яўнелгавы.

АД ГІСТОРЫІ. У Верхнядзвінскім раёне за час апошняй вайны знішчана 426 вёсак, з якіх 120 так і засталіся неадноўленымі. Кожная трэцяя вёска на мемарыяльных могілках у Хатыні—з Верхнядзвіншчыны. На тэрыторыі раёна было спалена і расстраляна 8573 жыхары, 3639 — патоплена ў рацэ Свольна (сярод іх 2 118 дзяцей).

З 6175 чалавек, забраных у рабства, амаль усе прайшлі Саласпілс.

Сярод іх была сям'я Абуховічаў. Адзін з Абуховічаў — Эдуард— быў першым маім карэспандэнтам і памочнікам, як толькі зачыналася вось гэтая кніга.

**АБУХОВІЧ Антон** (ст. Бігосава): Нас да вайны пяць братоў было. Пачалася партызанская барацьба. Валодзю арыштавалі акупанты, але ён уцёк у Дзвінску з поезда і пайшоў у партызаны. Франц у Польшчы ўцёк з эталона і таксама стаў партызанам. Юзік ваяваў у Сар'янскіх лясах. Калі спалілі нашу вёску, мяне, жонку і траіх дзяцей вывезлі ў Саласпілс. Адтуль паслалі, ужо без дзяцей, на катаржныя работы. Нам удалося ўцячы з-пад аховы, адшукаць сваіх дзяцей: Зіну, Жэню, Аляксандра.

**АБУХОВІЧ Аляксандр** (Даўгаўпілс): Нашу сям'ю акупанты лічылі партызанскай, таму часта рабілі вобыскі, бралі бацьку на допыты. Аднойчы яго так збілі гумовымі плёткамі, што ён два тыдні не мог падняцца. Успамінаю, як гітлераўцы штыкамі пракалвалі капу сена, дзе былі схаваны лістоўкі.

10 сакавіка 1943 года нашу сям'ю і блізкіх сваякоў арыштавалі. 5 красавіка 1943 года мяне і маіх сясцёр разам з іншымі дзецьмі адвезлі на аўтобусе ў воласць. Я з сястрой апынуўся за 7 кіламетраў

ад станцыі Огрэ — на хутары Тручы ў доме Артура Ліепы. Нас, знясіленых, хворых, галодных, ратавалі латышы.

У пачатку 1944 года я даведаўся, дзе знаходзяцца нашы родныя. Перад адступленнем акупантаў бацька з вялікімі цяжкасцямі забраў нас з хутара Тручы. А калі сям'ю спрабавалі вывезці ў Германію, на станцыі Амата нам удалося ўцячы. Схаваліся ў сям'і латыша Петэрсана.

Я ў Латвіі атрымаў спецыяльнасць інжынера-механіка. Працую выкладчыкам у Даўгаўпілскім педінстытуце. А сястра Жэня працуе на заводзе ў Рызе. Зіна настаўнічае ў Рагачове.

**АБУХОВІЧ Эдуард** (пляменнік Антона Уладзіміравіча (ст. Бігосава): Разам з бацькам мы прабылі ў Саласпілсе не больш тыдня. Затым нас перавялі ў дзіцячы барак. Пры гэтым перакладчык абяцаў, што дзеці будуць дагледжаны. Але тут і пачалося цяжкае, галоднае жыццё на нарах. Нас марылі голадам, дзеці падалі, як мухі. Адымалі ж ад мацярок нават грудных дзяцей. Праверка нараў — вось што выклікала ў нас вялікі страх. Ноччу спецыяльная каманда прачэсвала нары: скідвала на праход дзяцей не толькі мёртвых, але і паўжывых. Іх забіралі на насілкі, грузілі ў машыны.

У канцы лета я трапіў на хутар. Але які з мяне работнік у 6 гадоў?! Неўзабаве дзятву з хутароў сабралі і павезлі ў Рыгу. Там і сустрэўся з сястрой Марыяй.

Я трапіў у сям'ю Карэцкага. Па сутнасці, сям'я Карэцкіх выратавала мне жыццё. Сястра Марыя аказалася ў знаёмых, і мы з ёю часта бачыліся.

**ЗІМНІЦКАЯ Марыя** (настаўніца 99-й сярэдняй школы г. Мінска): Памятаю страшэнны барак, каменную шэрую падлогу. Прыносілі чай, хлеб з апілкамі. Калі бацькоў пасылалі на работу, дзеці заставаліся адны ў кутку. Праз тыдзень нас пад прычынай медыцынскага агляду разлучылі з бацькамі. Кожнаму павесілі на шыю бірку. Яшчэ месяц пакуты. Ніхто нас не даглядаў. Малыя падалі з верхніх нар і калечыліся. Аднойчы мы чулі, як у двары ў яме плакалі дзеці. Потым іх закапалі.

Мяне выхоўвала Вольга Кельдэр. У яе я адчула, што такое сапраўднае шчаслівае жыццё.

**КЕЛЬДЭР Вольга** (Рыга): У двары манастыра ўбачыла чацвёра дзяцей. «Абуховіч» — было напісана на адной з бірак. Дзеці стаялі, як замарожаныя, Марыя пакутавала на залатуху, моцны насмарк. Была абпечана. Акупанты ў Рызе лічылі; партызанскія дзеці павінны загінуць. Але рыжане зрабілі інакш: бралі на выхаванне нават грудных дзяцей. Напрыклад, мая сяброўка Аляксандра Ільіна ўзяла хлопчыка.

Марыя пражыла ў нас амаль два гады. Была сёмым членам нашай сям'і.

**АБУХОВІЧ Элеанора** (родная маці Марыі, Бігосава): З Саласпілса маю сястру Броню адправілі ў Германію, другую сястру Ядзю — у Даўгаўпілс. Я з мужам апынулася пад Ленінградам. Пра лёс жа сваіх дзяцей мы нічога не ведалі. Першую звестку аб іх падала Ядзя. Я не змагла паверыць у той цуд, што нашы дзеці жывыя і здаровыя, знаходзяцца ў нармальных умовах. Мне хочацца падзякаваць усім тым людзям, якія ў цяжкі час узялі на выхаванне партызанскіх дзяцей.

**БЕРЗІНЬШ-БІРЗЭ Міервалдыс** (пісьменнік, былы вязень Саласпілскага канцэнтрацыйнага лагера): Шлях да яго (мемарыялу.— С. П.) кароткі, але няма ў Латвіі іншай дарогі, па якой насустрач сваёй гібелі прайшло б столькі людзей... Прайшлі гэтай дарогай тысячы беларускіх жанчын, дзяцей і старых... Іх смерцю хацелі супыніць тых, хто са зброяй у руках уздымаўся на барацьбу супраць захопнікаў.

* * *

Мы едзем у Рыгу. А колы вагона паўтараюць перастук апаленых сэрцаў асвейцаў. Па гэтай жа чыгунцы людзі ехалі ў невядомасць... Каб жа можна было расшыфраваць, пра што гавораць колы на стыках чыгуначных рэек!

І вось ужо цягнік імчыць па латышскай зямлі. Мы паўтараем пякучы шлях Ліны Раводзінай з горада Куйбышава. У лютым 1943 года яна была 6-гадовай Ліначкай Варона з вёскі Карценева:

— Мне было тады 6 гадоў, калі гарэлі побач вёскі і людзі.

У Сушках мяне з мамай загналі ў хлеў, набіты людзьмі. Нам было чуваць, як шамацела салома: немцы складвалі яе на распалку. Было страшна — усе крычалі і плакалі.

Але нас не спалілі. Вецер павярнуўся з невыгоднага боку, і калі б хлеў загарэўся, то побач згарэлі б клуб і стайня, дзе размяшчаліся немцы (так тлумачылі потым жыхары).

У Саласпілсе ў мамы нейкім цудам захавалася сумачка са здымкамі родных і блізкіх. Мы часта іх разглядвалі і плакалі.

Па лагеры заўсёды разносіліся стогны і плач. Насупраць нашых нараў знаходзілася з нашага сяла жанчына з дзвюма дзяўчынкамі. і калі ў яе аднялі дзетак, яна страціла розум. Пасівела ўся ад гора і толькі нема крычала. Яе павялі, і больш ужо ніхто не бачыў пакутніцу, А дзяўчаткі Стамброўскай выжылі і зараз працуюць у Рызе. Настаў той дзень, калі і мяне аднялі ад мамы. Назвалі наша прозвішча: «Варона!» Мама крэпка мяне пацалавала і, прыціснуўшы да сябе, на-

чала сходзіць з нараў. Нас заставілі скрозь строй немцаў ісці на выхад. Гэта была цяжкая для нас дарожка. Мама ўся аслабла, але яшчэ моцна трымала мяне за руку. Ужо на двары нейкі немец схапіў мяне і адарваў ад мамы. Яе адкінулі ў другі бок. Дзіцячы барак быў цесна акружаны немцамі. А перад імі крычала гурма матак.

У гэты час у дзіцячым бараку нас пачалі забаўляць рознымі цацкамі, абаранкамі. Каб супакоіць, гаварылі, што нашы мамы за намі прыйдуць. Можа і было б усё нармальна, ды мая мама неяк злаўчылася прабіцца праз заслон і падбегла да майго барака, падцягнулася да высокага акна і зазірнула, што там з намі робяць. Невядома чаго я ў гэтую хвіліну глянула ў акно, убачыла яе твар і закрычала: «Мама!». Усе дзеці ўскінуліся, ажывіліся. А немец збіў маму прыкладам з падаконніка і пачаў яе таптаць. Вязням удалося забраць маму ў свой гурт. Яны трымалі яе пад рукі, бо ляжачых расстрэльвалі на месцы...

Аднойчы нас вывелі з барака, пасадзілі на машыну і павезлі. Мы так саслаблі, што многія дзеці падалі з сядзенняў. Я з нейкай дзяўчынкай уладкавалася наперадзе. Памятаю, што перада мной сядзеў тоўсты немец. Патыліца ў яго была чырвонай і порыстай. Я, відаць, таксама траціла прытомнасць, але баялася ўпасці. Таму сядзела, глядзела на тую патыліцу і лічыла на ёй дзірачкі...

Нас прывезлі ў Ігатэ. Побач было або возера, або рэчка, зарослая высокай травой. Мы выкопвалі карэнні аеру і елі: яны былі салодкімі. Памятаю, што нам заўсёды хацелася есці.

Паміж сабой гаварылі мала. Нам не дазвалялі гаварыць па-свойму. У вуглу нашага пакоя заўсёды стаяла вядро з вадой, дзе моклі бярозавыя плёткі. Нас частавалі «бярозавай кашай» за кожны няправільны крок, за кожнае слова, вымаўленае на сваёй мове.

Мой ложак у Ігатэ стаяў насупраць акна, у якое стукаліся голыя галінкі. Было жудасна на душы, холадна і галадна. Заўсёды ўяўлялася мама, быццам яна дзесьці прабіраецца да мяне, хапаецца за падаконнік і хоча зазірнуць у акно, а калючыя сукі высахлага дрэва яе не падпускаюць. І я ноччу, каб ніхто не бачыў, ціхенька падымалася з ложка, падыходзіла да акна і вачыма вышуквала маму ў цемені.

А потым нам нехта склаў байку, што нашы мамы плылі да нас на параходзе, карабель той затануў і яны — таксама. З такой думкай і жылі, што ў нас нікога больш няма, што мы нікому не патрэбны. Часам нас некуды адвозілі дактары ў белых халатах. А калі прывозілі, то сілы ўжо не было, мы толькі ляжалі. І ўсё з памяці тады некуды адплывала.

Летам 1944 года нейкая пажылая жанчына ўзяла мяне з прытулку да сябе на хутар пасвіць кароў. Трэба было рана ўставаць і выганяць статак. Я і там не наядалася, а прасіць і не ўмела, і баялася. Бо нас у ігатэ прывучылі да пакоры і маўчання.

Калі нашы салдаты прагналі немцаў, некалькі воінаў прыбыло да маёй гаспадыні на пастой. Адзін салдат, бачачы маю пужлівасць і замкнёнасць, прылашчыў мяне, і я яму ўсё расказала. І папрасіла яго забраць мяне з сабой і адвезці на Беларусь.

Праз некаторы час у вызваленым Ігатэ зноў асталяваўся дзіцячы дом, і я зноў трапіла туды. Мае сябры ўсе засталіся жывымі. Ратавала іх адна жанчына, якая і пры немцах даглядала за імі. Калі пры адступленні фашысты рыхтаваліся ўзарваць дзіцячы прытулак, яна паспела вывесці дзяцей у лес і схаваць іх там. Хадзілі чуткі, быццам тая жанчына была звязана пры акупацыі ці з падпольшчыкамі, ці з партызанамі. Яна і стала дырэктарам дзіцячага дома пасля вызвалення.

У сувязі з гэтым успомню такі выпадак. Аднойчы, яшчэ пры немцах, гэтая жанчына выклікала мяне да сябе ў пакой і паказала паштоўку, якая прыйшла ад маёй цёці Гілуць Соф'і (цёця жыве зараз у Бігосаве). У яе ў Саласпілсе аднялі траіх дзяцей і адправілі працаваць на хутар. Сын цёці, 1936 года нараджэння, прапаў без вестак, дачку знайшла пазней, самага меньшанькага сына замучылі ў Саласпілсе.

У свайго гаспадара цёця часта плакала, бедавала, і ён вырашыў дапамагчы ёй у пошуках дзяцей. Вось якім чынам трапіла яе паштоўка ў ігатэ. Мая абаронца напісала па-латышску адказ цёці Соф'і, а я намалявала кветку, бо сама пісаць не ўмела.

Па вайне цёця Соф'я паведаміла пра мяне ў Карценева. Веска наша не была спалена. Мае сестры вярнуліся дадому, а брат, аказваецца, загінуў за вызваленне Латвіі. Сястра Леакадзія напісала мне ў Ігатэ, што збірае грошы на паездку за мной. Перапісвалася з ёй зноў жа мая дырэктарка. Бо я ўмела цяпер пісаць і гаварыць толькі палатышску. У гэты час у маім дзіцячым доме былі іншыя выхавацелі, не такія, як пры немцах. Мы адчувалі іх ласку і пяшчоту. Бегалі мы і да нашых салдат. Так хацелася, каб яны палюлялі нас на сваіх дужых руках.

Летам 1945 года я пасвіла кароў на адным з хутароў. За нашу работу людзі прывозілі прадукты ў дзіцячы дом. На хутары ў мяне было сабачанё, мой друг, з якім я размаўляла ў полі, калі пасвіла кароў. Абдыму сабачку і шапчу яму на вуха, як мне цяжка жывецца, як я чакаю, калі за мной прыедуць, і тады нам прыдзецца развітацца. Сабачка паціхеньку скуголіў, быццам разумеў мяне, адчуваючы нашу

разлуку, і злізваў з маёй шчакі слёзы. І вось у жніўні 45-га года перад самым вечарам я ўбачыла дзвюх дзяўчынак з дзіцячага дома. Яны здалёк закрычалі:

— Ліна! Сястра прыехала, пайшлі!

Яшчэ днём у піянерскім пакоі дырэктарка паставіла два ложкі: для мяне і сястры. Калі мы зайшлі ў дом, яна сказала:

— Ціхенька лажыся. Не будзі сястру, яна вельмі стамілася.

Я толькі папрасіла, каб яна пасвяціла запалкай. Хацелася паглядзець, якая яна, сястра. Затаілася, чакала, калі ж сястра прачнецца. Прыслухоўвалася да кожнага яе ўздыху. А сястра ў сне трызніла, а потым ускочыла і пачала рукой шукаць мяне. Я таксама ўскочыла. Мы сядзелі ў цемені і плакалі. Яна мне ўсё нешта расказвала і расказвала, я ж нічога не магла сказаць. Потым недзе ў памяці пачалі прарастаць успаміны і ўражанні дзяцінства. Усё выяўней я пазнавала сястрыны словы, і ў мяне — рэдкія — сталі выплываць з памяці словы ў адказ, быццам з глыбіні нейкай...

Раніцай Леакадзія прачнулася першая і доўга на мяне глядзела. Потым расказвала, што, пабачыўшы, пачала сумнявацца, ці сястра гэта ля яе: я вырасла, вельмі змянілася, а галоўнае, гаварыць з ёй не ўмела. Калі я прачнулася, зноў пачалі мы нашу гаворку. Я зноў прамаўляла толькі «да» і «нет». Хачу сказаць ёй, што я і ёсць яе сястра, а не магу. І мне стала страшна, што сястра не прызнае мяне, не возьме з сабой. Я анямела. І тады недзе з глыбіні маёй істоты вырваліся словы «жук-жаба»... Так яна мяне да вайны абзывала, калі я смоллю лезла да сваёй улюбёнай сястрычкі і не давала ёй праходу. Гэта і вырашыла, што я сапраўды Ліна і што я — сястра родная, яе «жук-жаба». У гэты ж дзень прыйшла мая былая гаспадыня і стала прасіць сястру пакінуць мяне на хутары. Абяцала вывучыць, выгадаваць. Але сястра, на маю радасць, сказала:

— Мы будзем посную бульбачку есці, але будзем разам!

Дома нас чакала маці. Канешне, я адразу пазнала маму, хоць яна была ўжо згорбленай і пасівелай. Уся веска прыйшла паглядзець на нас.

У дзіцячым доме лічылася, што я закончыла два класы. Таму дома я пайшла ў трэці. Але ж сваю мову я зусім забыла і таму за дыктанты атрымлівала адзінкі і двойкі. Вучні класа смяяліся, калі я гаварыла няправільна. Я са слязьмі ўцякала са школы і не хацела туды вяртацца. Мо ад гэтага захварэла і доўга ляжала ў бальніцы.

З цяжкасцю закончыла чатыры класы беларускай школы, а калі пайшла ў пяты клас рускай школы, зноў пачаліся двойкі і слёзы. Пасля заканчэння 7-га класа паступіла ў Даўгаўпілскі тэхнікум чы-

гуначнага транспарту і закончыла яго нават без троек. А зараз працую ў Куйбышаве дыспетчарам цягнікоў. Маю ўзнагароды за работу. Гадую дзвюх дачок. Стараюся выхоўваць іх душэўнымі, добрымі людзьмі.

## БЕЛАРУСКІЯ РЫЖАНЕ

Ужо праз дзевяць гадоў пасля заснавання Рыгі (1201 г.) былі накрэслены на пергаменце першыя радкі «вечнага міру» між Рыгай і Полацкай зямлёй. Яны здаўна жылі ў добрасуседстве.

І сёння на кожнай рыжскай вуліцы можна сустрэць беларусаў. Лес амаль кожнай сям'і звязаны з Саласпілсам. Вось што мне паведамілі «беларускія рыжане».

Вуліца М. Горкага, ЛІСОЎСКІ Франц з вёскі Масіва:

— Кожны дзень катавалі людзей у нашым бараку. Было чутна, як стагналі людзі за занавескай іругаліся паліцаі. Ушчэнт збівалі мужчын, некаторыя з іх на другі ж дзень паміралі. Над жанчынамі здзекваліся інакш. Іх аднекуль прыносілі на насілках і скідвалі на нары.

У нас бралі кроў, але як сталі мы хварэць — перасталі. Потым я працаваў на хутары. Пры падыходзе Чырвонай Арміі мяне адвезлі ў Рыгу, каб параходам адправіць у Германію. З порта я ўцёк, хаваўся па падвалах, пакуль не выбраўся з Рыгі ў лес, дзе дачакаўся прыходу нашых. А маму замучылі ў Германіі. Пасля вайны ўдалося знайсці сястру Ніну: яна помніла сваё прозвішча і ведала, дзе жыла да вайны. А вось малодшага мы знайшлі на 23-м годзе пасля вайны.

Сястры і мне асабліва вучыцца не давялося: вайна адняла ў нас бацькоў і нам з сястрой трэба было думаць, як пракарміцца, як апрануцца, бо родных і блізкіх таксама не было...

Вуліца Дайнас, **ВАЛАДЗЁНАК Сямён** з вёскі Ярохі:

— Пастараліся фашысты: з усёй вялікай маёй радні — чалавек 20 — я толькі з сястрой Аняй застаўся.

Саласпілс перада мной паўстаў такім: высокі, у некалькі радоў калючага дроту плот. Вышкі на вуглах і цэнтральная — ля ўваходу. Сцяжынкі пасыпаны гравіем. Чысціня ідэальная.

Памятаю, як праходзіла ў бараку нейкая дзіўная камісія. Мы сядзелі голымі ў адным канцы барака, а ў другім канцы афіцэры-фрыцы аглядалі маладых дзяўчат. Нават праз павелічальнае шкло на іх з усіх бакоў глядзелі. Каторая падыходзіла для іх, адразу ж апраналі ў шаўковае плацце. Потым, як паведаміў старшы барака, а ім быў латыш-палітвязень, іх адправілі ў публічныя дамы.

Вуліца Рупніцас, **УСЕНЕНАК Антаніна** з вёскі Немцы:

— Тут жыву з 1948 года. А было ў мяне да ікспідзіцыі шасцёра дзяцей, Адзін сын, 14-ці гадоў, на дарозе застаўся ляжаць: палічылі за партызана — застрэлілі. І Лёні няма ўжо... Рэню ў прытулку атруцілі. Віктар у Пурцыеме жыве, старэйшы Пеця таксама недалёка. А сама я дажываю ў дачкі Жэні. Пенсію атрымліваю: на заводзе ж працавала...

А дзетак сваіх я знайшла так. Віцю — у Ікшкіле ў Граўбэ Даміріка. Лёню ратавала Духальская Ірына: трымала, пакуль не ажаніўся. Жэню знайшла на хутары ЯнуКі. І Пеця там жыў. Гаспадар быў вельмі добры. Палюбіў Пецга, што работнік харошы.

Бачу і сёння, як мяне гоняць: гарыць Берлін, а я, нагу зламаўшы, 6 сутак не піўшы, не еўшы, у Равенсбрук іду. І ўпасці баюся, бо застрэляць... Пеаражыла. А нада было даўно памерці...

Вуліца Патвэрсмэс. Тут жыве **УРУБЛЕЎСКАЯ Ксенія** — прыёмная маці Скрыпкі Васіля з вёскі Дубровы.

Васіль нарадзіўся на Асвейшчыне за тры месяцы да пачатку вайны. У адной з урнаў на могільніку вёсак у Хатыні ёсць і пыліны праху яго блізкіх, і попел бацькоўскай хаты.

Па падліках карнікаў, маленькі Васіль са сваёй маці Марыяй Варфаламееўнай не павінен быў жыць. Уратаваўся цудам. У Саласпілсе многія равеснікі Васіля былі атручаны. Ратавала Васіля тое, што ён у гэты час знаходзіўся ў ізалятары. Невядома, колькі яшчэ выпрабаванняў трэба было б вытрымаць трохгадовай малечы, калі б у Рызе на манастырскім падворку (а туды на грузавіках вывозілі з Саласпілса дзяцей, якія дажывалі свае дні) на яго не зірнула сардэчная жанчына — Ксенія Урублеўская. Што яна ведала пра яго? Толькі тое, што на шыі хлопчыка вісела бірка «Скрыпка Васіль. 1941 г.»

Разам са сваімі дзецьмі Лёнікам і Стэфай, мужам Вацлавам сагрэла Урублеўская душу замучанай істоты, вярнула яму жыццё.

Пасля вайны з Майданака вярнулася родная маці Васіля, адшукала сына. Каб Вася звыкся з матуляй, Ксенія Міхайлаўна на доўгі час пасяліла ў сябе Марыю Варфаламееўну.

З Рыгі з вуліцы Патвэрсмэс (Прытулкавай) прывезла мама сына ў Мінскае суворасўкае вучылішча. Ды не дачакалася яна, калі Вася стане афіцэрам. І Ксенія Міхайлаўна стала для Васіля за родную маму. Па сённяшні дзень яна адчувае яго сынаву любоў, сардэчную ўдзячнасць.

Пры першай магчымасці Васіль Скрыпка, ён зараз афіцэр Савецкай Арміі, ці то адзін, ці то з сям'ёй наведвае з дзяцінства знаёмы дворык, узбягае на драўняны ганак:

— Вось і я, мама! — чуе Ксенія Міхайлаўна голас узмужнелага сына.

На галоўнай вуліцы Рыгі — Ленінскай — жыве **МАЖЭЙКА Настасся** з асвейскай вёскі Вялікае Сяло. 17 красавіка 1943 года карнікі спалілі яе хату. Нібыта партызан, вывезлі ў Саласпілс яе бацькоў, сясцёр Зіну, Марыю, братоў Васіля, Дзмітрыя і паўтарагадовую пляменніцу Любу. У той дзень спалілі ў стайні каля 500 чалавек з Вялікага Сяла і навакольных вёсак.

Настасся Іванаўна з удзячнасцю прыпамінае гаспадара хутара Спурыш — Яніса Каркліня. Перад адпраўкай у Германію ён нават хацеў удачарыць яе, але акупанты не дазволілі.

Не так даўно Настасся Іванаўна зноў наведала той хутар, дзе яе вярнулі да жыцця. Карклінь прыняў яе як дачку. Пачаставаў яблыкамі з тых яблынь, якія пасадзілі яны разам у гонар яе збавення ад смерці.

Настасся Іванаўна не раз наведвала Саласпілскі мемарыял:

— Зараз там усё не тое. А я ўяўляю баракі з нарамі, дзе адзін рукаў клалі пад галаву, другім накрываліся. Уяўляю шыбеніцу: тры слупы з рамянямі, ланцугамі, дзе вешалі чалавека галавой уніз. Чую просьбу тых, каго вось так каралі: «Брацці і сёстры, дабейце нас...» Іх вешалі ў 10 гадзін раніцы, а яны яшчэ і назаўтра жывымі былі. Мучыліся. Бачу лаўкі, дзе каралі ўцекачоў, бачу іх парванае крывавае цела, распухлыя галовы.

«Стойце за сваю ўласць!— гаварыў нам бацька.— Не скарайцеся!»

На вуліцы Карла Маркса жыве са сваёй прыёмнай маці **Вольга ЧУЧЫНА**. Сапраўднае прозвішча Вольгі Пятроўны — Гейжын. І родам яна са спаленай вёскі Цагельнікі. У яе бацькоў было пяцёра дзяцей: Аня, Ніна, Вера, Оля, Іван.

З Саласпілса яны трапілі на хутары. Многія саласпілскія дзеці былі сабраны з хутароў у рыжскі манастыр. Але з манастыра не ўсе дзеці былі ўзяты на выхаванне ў латышскія сем'і. Большасць маленькіх вязняў Саласпілса трапілі ў дзіцячыя прытулкі.

Прыёмная мама Вольгі Пятроўны Ганна Мяфодзеўна расказала, што было далей. Яе сяброўка, Клаўдзія Баброва, паведаміла, што з манастыра ўзяла сіротку Аню. Але ў Ані, аказваецца, ёсць яшчэ сястрычкі. Толькі не ведала, дзе яны. Тады Ганна Мяфодзеўна вырашыла іх адшукаць, каб Аня не расла адзінокай і няшчаснай. Высветлілася, што Оля і Вера знаходзяцца ў вядомым ужо нам дзіцячым доме Ігатэ. Але Вользе Пятроўне не па сілах было гадаваць адразу дваіх. Сабе ўзяла ў дочкі Олю, а Веру згадзіліся ўзяць знаёмыя Чучынай — Таццяна і Міхаіл Майкапар.

А Вольга Пятроўна ўсё далейшае жыццё ахвяравала Ганне Мяфодзеўне, ратаўніцы. 1 яе рыжская мама на схіле веку не змагла сказаць ніводнага слова дакору ў адрас Вольгі Пятроўны.

Вуліца Кіеўская. Тут жывуць **ЕРМАЛАЕВЫ Таццяна і Мікалай**, людзі, якія выратавалі ад смерці асвейскага хлопчыка Віталя Каляду, І сам ён жыве ў Рызе на вуліцы Карла Маркса, яго сястра Кіпіч Надзея — таксама рыжанка.

У Саласпілсе, як сведчыць Надзея Рыгораўна, за адну толькі ноч адабралі дзяцей у 800 асвейскіх матак. Праз станцыю Шкіратава жанчын вывезлі ў Майданак. Яе дзеда Сімацкага Мікалая акупанты расстралялі ў Румбульскім лесе.

Надзея Рыгораўна памятае, як у дзяцей бралі кроў. Пасля гэтага перад кожным з іх на стале высыпалі па чайнай лыжцы цукру, які яны лізалі.

У манастыры ніхто з рыжан не ўзяў Надзю, бо яна была занадта хворай і кволай. Так яна апынулася ў Ігатэ, у былым маёнтку нейкага барона.

Там у дзяцей таксама бралі кроў. Але потым Надзя зноў вярта-ецца ў Саласпілс, да сваёй бабулі Сімацкай Марыі. І ўсё ж, як ні баялася бабуля Нямеччыны, прыйшлося пабыць і там. Параходам іх вывезлі ў Гамбург, потым у лагер, які размяшчаўся ля горада Франкфуртана-Майне, дзе іх і вызвалілі амерыканцы. Летам 45-га года праз разбіты Кенігсберг Надзя з бабуляй вярталася на Бацькаўшчыну. Пакуль афармлялі дакументы, дзеці маглі крыху пазабавіцца. 1м нашы салдаты паказалі кіно. Потым дзеці гулялі на плошчы. Яны нават гушкаліся на арэлях. Потым аказалася, што гэта не арэлі: у радок стаялі шыбеніцы, дзе знайшлі свой бясслаўны канец гітлераўскія зладзюгі. Дзеці гушкаліся на арэлях, перароблених з петляў, якімі фашысты хацелі задушыць усіх неарыйцаў, але самі трапілі ў пяньковыя.

* * *

Кожны лёс — гэта суровая аповесць дня ўчарашняга, дня сённяшняга, дня заўтрашняга... Дня непаўторнага. Пазнаёмішся з чалавекам, паслухаеш яго — і не трэба ніякіх прыдумак, фантазій, каб стварыць нейкі жыццёвы факт, сітуацыю. Дык ці варта падпраўляць, падлагоджваць непадробныя дакументы чалавечай памяці? Можна было б, напрыклад, апрацаваць пачутую аднойчы займальную легенду пра тое, быццам на адной вуліцы ў Рызе ледзь не 20 гадоў жылі два родныя браты-асвейцы. Жылі і не ведалі, што яны браты. Хапіла б уяўлення сентыментальна апісаць іх сустрэчу, брацкія абдымкі... Але

вырашыў шукаць сапраўдных, рэальных братоў... І яны знайшліся: рускі па нацыянальнасці Каранеўскі Пётр і латыш Каранеўскі Віктар. Іх бацькі — беларускія сяляне Іван і Тэкля Шкецікі жывуць на Верхнядзвіншчыне ў вёсцы Леснікова. Сястра Каранеўскіх загінула ў Саласпілсе, і калі фашысты адбіралі ад Шкецік Тэклі сыноў, яна іх запісала на сваё дзявочае прозвішча, бо баялася назваць сапраўднае, каб немцы іх не забілі, як дзяцей партызана. Вось гэта акалічнасць і ўнесла патаему ў пошукі, якія шчасліва закончыліся сустрэчай родных толькі ў 1961 годзе.

З Саласпілса Віктар трапіў да Бонгерыса Карла, які выгадаваў свайго прыёмнага сына, аддаў у навуку. Пётр з Саласпілса трапіў у дзіцячы дом, потым закончыў рамеснае вучылішча паліграфістаў.

У Рызе жыве былая партызанская сувязная брыгады «Няўлоўныя» **ШПАКОЎСКАЯ Марыя**. Калісьці на пасяджэнне Вярхоўнага Суда ў Рызе прыйшла і Марыя Мацвееўна родам са спаленай вёскі Гейжэнава. Разам з маці яна таксама прайшла Саласпілс. Марыя Мацвееўна Вярхоўнаму Суду нагадала такі яскравы факт. Калі адзін латыш, сам апухлы ад голаду, аддаў свой мізэрны паёк хлеба змучанаму беларускаму хлопцу, гэта прыкмецілі стражнікі. Яны накінуліся на вязня-латыша, лупцавалі яго ботамі, здзекаваліся да той пары, пакуль не забілі.

Калі Марыя Мацвееўна вярнулася на радзіму, яна знайшла замест вёскі галавешкі і быльнік. І тады вырашыла вярнуцца ў Латвію — да тых людзей, з якімі парадніласся ў Саласпілсе.

Больш чым хто жшы, прабыла ў Саласпілсе Шпакоўская Гунэфа са сваімі дзецьмі Марыяй, Лінай, Францам і Толікам: з лютага 1943 года па люты 1945 года.

Расказвае **ШПАКОЎСКАЯ Гунэфа**:

— Дзеці станавіліся ў чаргу з алюмініевымі кружкаМі. ІМ нальюць гарачай баланды, і яны апякаюцца. Хто не ўтрымае страву, застаецца галодным. Хто хворы і не здолее падысці да раздачы, таксама галодны. Малыя з 3-га ці 4-га паверха нараў калі і паспрабуюць злезці за ежай — упадуць на дол. Руку ці нагу зламаюць. Яго падымуць і зноў пасадзяць на месца.

Майму Толіку таксама нейкія ўколы давалі. Ляжаў без памяці. Дык ён і праз сон напамінаў, як родных завуць, як суседзяў, як каго дома звалі, карову нашу...

Ашчапяруць мяне дзеткі і плачуць:

«Мамачка! Чаго мы такія няшчасныя? Чаму нас так мучаюць? А Франц, калі ўжо пачалі вешаць ім біркі, супакойваў мяне: «Мама, не плач, беражы сваё здароўе. Можа мы і ўвідзімся...»

З 800 дзяцей за два з паловай месяцы ў жывых засталося 200. Мёртвых валачылі за вароты, зачапіўшы вяроўкамі за пяту. Бывала, што вечарам лажышся з жывым чалавекам, а ўстаеш з нябожчыкам. З мужчынскіх баракаў вывозілі мерцвякоў на падводах. Хто яшчэ паўжывы ляжыць у санях, кусае ў нежывога суседа мякчэйшае, напрыклад, шчаку. З голаду аб'ядалі мёртвых. Майго Толіка, калі мяне вывезлі ў Германію, усынавіла рыжанка Нячаева Валянціна. Знайшла я свайго хлопца ў 1946 годзе.

15 гадоў было сыну Шпакоўскай Гунэфы, калі карнікі палілі яго родную вёску Гейжанава. А нядаўна Франц Мацвеевіч мне паведаміў з Кохтла-Ярвэ: «... Каля лагера ляжалі тысячы трупаў. Фашысты, прадчуваючы расплату, пачалі іх спальваць. А тут дзеці прыбаўлялі ім работы. Трупы не паспявалі знішчаць. Тады і прыдумалі яны высылаць дзяцей ад 10 да 15 гадоў на хутары. А вясной 1944 года я зноў быў прывезены з хутара ў лагер. Цэлы месяц нас рыхтавалі да нейкай працэдуры. Аказваецца, ішла вярбоўка ў армію здрадніка Уласава. Спачатку нам дэманстравалі ўсе жахі здзекаў над вязнямі, каб зламаць нашы душы. Потым пачалі нас апрацоўваць тыя, хто прадаўся немцам.

І ўсё ж у дзень вярбоўкі фашысты аказаліся ў пройгрышы. З 200 юнакоў змаладушнічалі толькі 13. І ўсе астатнія глядзелі на іх з агідай. Пасля гэтага ўсіх нас адправілі ў глыб Германіі. Я трапіў у горад Мюнстэр, дзе наш лагер быў вызвалены саюзнікамі.

## КАРЛІКІ СОНЕЧНАГА БЕРАГА

Вячэрняя газета «Рыгас Балсс» («Голас Рыгі») аднойчы змясціла невялікі допіс Н, Богуш «Памятаем і ніколі не забудзем». Аўтарка, а ёй аказалася Надзея Георгіеўна з вёскі Красова Асвейскага раёна, разам з мамай, братам і сястрычкай былі за калючым дротам Саласпілса. У чэрвені 1943 года на хутар «Рукішы» («Карлікі») пад Саўлкрастамі («Сонечны бераг») з саласпілскага лагера прывезлі 70 дзяцей ад 2 да 12 гадоў. Сярод тых паўжывых істот была і Надзея.

Праз 35 гадоў пасля гэтага Надзея Богуш выказвала праз газету вялікую ўдзячнасць і пасылала нізкі наклон адной з выхавальніц дзіцячага прытулку «Рукішы» Э. Гайлітэ, сваёй ратаўніцы.

Сустрэўся з Надзеяй Георгіеўнай, адшукаў і Э. Гайлітэ. Пісьмо прыйшло з пансіяната «Камунар» (Рыжскі р-н) ад Эльзы Пійпэ-Гайлітэ.

«Рукішы», як паведамляла Эльза Мікелеўна, гэта вялікі прасторны дом на самым беразе мора, дзе да вайны размяшчаўся дзіцячы лагер для летняга адпачынку.

Эльза Мікелеўна там працавала з лета 1943 года. Загадчыцай прытулку была сціплая жанчына, медработнік — Каралёва Лідзія.

Прытулак знаходзіўся пад веданнем дэпартамента сацыяльнага забеспячэння акупіраванай Латвіі.

Як сведчыць Эльза Мікелеўна, дзеці сталаваліся не вельмі сытна, але паступова акрэплі. І вось калі прывезлі яшчэ адну групу з Саласпілса — іх нельга было параўнаць ні з кім. Дзеці былі падобныя на жывых трупікаў. «Костачкі, абцягнутыя скурай, якая абсыпана рознымі балячкамі. Сямігадовае дзіця спатыкалася і падала на кожным кроку. Пра меншых — няма чаго гаварыць».

Доўга змагаліся выхавацелі за жыццё дзяцей, пакуль іх хоць чуць падлячылі. А тут новая бяда: эпідэмія шкарлятыны. Памерла тры дзяўчынкі і два хлопчыкі. Іх пахавалі на могілках у Саўлкрастах.

Маркотна прайшла зіма. У трывогах і стоме закончыўся 1943 год. У маі раптоўна паведамілі, што прытулак пераводзяць на суседні хутар, які насіў назву «Цымерман». Раней там размяшчаліся ваеннапалонныя, якія памерлі ад тыфусу. Гітлераўская салдатня хоць і не чапала прытулак, але дзецям не было ўжо той волі і спакою, як раней. Ля самага дома салдаты ўзводзілі пярэдні край абароны, капалі траншэі, бункеры, розныя ўмацаванні.

У прытулку патаемна даведаліся, што немцы адступаюць. У Саўлкрастах гэта стала відаць толькі ў канцы верасня. Міма па дарозе цэлы тыдзень дзень і ноч ішла ваенная тэхніка, на грузавіках праязджалі нямецкія ваякі.

Вечарам 25 верасня ў будынак зайшлі нейкія інсгіектары вермахта і вырачылі вочы, убачыўшы, што на іх перадавой пазіцыі вячэраюць дзеці. Паступіў загад праз паўгадзіны пакінуць дом. А куды ісці? Эльза Мікелеўна прапанавала вярнуцца ў «Рукішы» і заняць там вялізны склеп. Мала хто згадзіўся з яе прапановай ісці «насустрач красным». Пастаралася гітлераўская прапаганда, якая травіла розум сцвярджэннем, што рускія знішчаюць усіх, хто быў у акупацыі.

У склепе праз ноч было чуваць, як немцы ўзрывалі чыгуначную станцыю, дарогу, мост. Раніцай нехта смялейшы з хлопцаў высунуўся са склепа і радасна крыкнуў: «Нашы ідуць!»

Сапраўды, паказаліся разведчыкі. Байцы, убачыўшы рух ля склепа, насцярожыліся і з аўтаматамі напагатове падышлі да склепа. Першымі не вытрымалі дзеці. «Свае!» — закрычалі яны.

А нашых салдат прыбывала ўсё брльш і больш. Ім расказалі, дзе знаходзяцца нямецкія пазіцыі, і байцы тут жа ў «Рукішах» пачалі займаць абарону. Завязалася перастрэлка, і двое сутак у «Рукішах» грымеў жорсткі бой. У немцаў там праходзіў апошні перад Рыгай

бар'ер. Супраціўляўся вораг адчайна і нават пацясніў нашых байцоў. Увесь гэты час дзеці прытулка былі на лініі агню. І толькі на трэція суткі чырвонаармейцы зноў прабіліся да «Рукішаў», каб эвакуіраваць дзяцей у тыл. Усе аслаблі ад страшнай псіхічнай нагрузкі, калі над склепам вылі снарады, сыпаўся пясок ад блізкіх разрываў, калі 'ўсе чакалі, які снарад ператворыць у руіны іх ненадзейны схоў.

Пад'ехалі тры машыны. Байцы пераносілі туды дзяцей. У гэты час іх абстралялі немцы. На шчасце, ніхто не загінуў. Толькі адзін салдат быў паранены, які сваім целам прыкрыў былога маленькага саласпілскага вязня.

Дзяцей прыняў камендант горада Лімбажы Афанасьеў Іван. А потым прытулак перайшоў у веданне гарадскога выканкома. 1 хоць яшчэ кіпеў «курземскі кацёл», у Лімбажах дзеці ішлі на школьныя заняткі.

9 мая на самым ранку нехта паведаміў у прытулак радасную вестку — Гіерамога! Дзеці забыліся пра снеданне. Узрушаныя, яны пабеглі ў цэнтр горада, дзе адбываўся мітынг. З таго часу дзеці сталі чакаць родных. Таго-сяго знайшлі бацькі, Але мйогія так і засталіся сіротамі: не было каму прыехаць за імі. Іх размеркавалі па другіх дзіцячых установах. У чэрвені 1945 года дзіцячы прытулак перастаў існаваць.

* * *

Далёка разляглiся дарогі былых асвейцаў. Жывуць яны ў Сібіры і на Урале, у Ленінградзе і на Украіне. **Марыя ЕРМАКОВА (ГЛІНСКАЯ)** з вёскі Кісялі на Верхнядзвіншчыне адгукнулася з Клайпеды:

«Многіх лагерных хлапчукоў аддалі ў пастухі. Мой брат Пецця трапіў у сям'ю Врасліньш. Гаспадары аказаліся добрымі людзьмі. І калі ён расказаў гаспадыні Эрміне аб тым, што ў лагеры засталася яго маленькая сястрычка Марыя, гэта значыць я, Браслінышы дабіліся дазволу ў ліпені 1943 года ўзяць мяне з лагера. Эрнэст Браслінш расказваў, што выцягнуў мяне ў поўным сэнсе гэтага слова з таго свету. У Саласпіпсе існаваў такі «парадак»: вельмі знясіленых дзяцей запіхвалі ў скрыні, якія потым закопвалі за агароджай лагера. Хоць і жывой, але зусім аслабелай я таксама была ўпакавана ў скрыню. Вось такой паміраючай і выратавалі мяне Браслінышы.

У 1946 годзе мая родная мама прыехала ў Латвію на пошукі дзяцей. Яна сустрэлася з намі, а старэйшую сястру Яўгенію мы знайшлі на хутары Ліелстраўпе Цэсіскага раёна ў Мацільды Лагздыньш, якая аказалася вельмі добрай, адукаванай жанчынай. Мацільда

Лагздыньш падарыла Яўгеніі карову, выслабаніла пакой, і мы сталі жыць разам.

Яшчэ хачу сказаць, што Эрміну Браслíньш забілі фашысты за дапамогу вязням лагера. А сястра Яўгенія з маці і цяпер жывуць у саўгасе імя Леніна ў Цэсіскім раёне, Яўгенія — заслужаная работніца сельскай гаспадаркі Латвіі, узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны».

АД ГІСТОРЫІ. У сакавіку 1945 года на пасяджэнні бюро Кампартыі Латвіі абмяркоўвалася пытанне: аказанне дапамогі пацярпеўшаму пагранічнаму Асвейскаму раёну. Было вырашана адправіць пагарэльцам 500 галоў буйной рагатай жывёлы, 284 коней, 3 вагоны збожжа, 150 плугоў, 200 баронаў, 800 квадратных метраў аконнага шкла, адзенне, абутак...

## А ЖЫЦЦЁ ПРАДАЎЖАЕЦЦА...

А жыццё прадаўжаецца. З яго віроў глядзяць шчырымі вачанятамі кветкі шыпшыны, бы чалавечы пульс, гучыць з яго віроў метраном Саласпілса. Памяць не сцішаецца. Чалавек заўсёды ў руху —да памяці,

...Усё яшчэ шукае сваіх бацькоў наша знаёмая Броня. Штогод у трэцюю нядзелю ліпеня ў Латвіі праходзіць Дзень памяці ахвяраў Саласпілса. А іх — 100 тысяч! 100 тысяч, дарагая Броня. Якою з іх была твая маці? А можа яна была тою чацвёртай, у памяць якой гарыць зараз ля трох хатынскіх бярозак Вечны агонь?

Броня часта бывае і на Кургане Дружбы, што насыпаны недалёка ад Прошак у Верхнядзвінскім раёне. Штогод у першую нядзелю ліпеня тут збіраюцца баявыя пабрацімы. Яны рухаюцца трыма алеямі: кляновай, што вядзе з Расіі, бярозавай — з Беларусі, ліпавай — з Латвіі.

Калі хто будзе там, паўглядайцеся; мо крочыць бярозавай алеяй бацька Броні? А можа хто скажа, якая кветка ўзышла над яго сэрцам?

